# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 16-17 (402-403) — Нядзеля, 20 красавіка 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Саракавая гадавіна 25-га Сакавіка ў вольным сьвеце

**У той час, калі ў паняволенай Бацькаўшчыне шматпакутны Беларускі Народ стогне й крывавіцца пад цяжкім ярмом бальшавіцкага акупанта, калі бязьлітасна нішчацца ягоныя матарыяльныя й духовыя скарбы, калі жахлівым тэрорам скованыя ягоныя прыродныя імкненьні да вольнага й незалежнага жыцьця, ягоныя прадстаўнікі ў вольным сьвеце — беларуская палітычная эміграцыя мела шчасьлівую нагоду належна адзначыць саракавую гадавіну свабоднага выяўленьня народнае волі — абвешчаньня 25-га сакавіка 1918 году ў Менску дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі. Урачыстыя сьвяткаваньні гэтае вялікае гадавіны, што адбыліся ўва ўсіх большых асяродзьдзях беларускае эміграцыі ў розных краінах вольнага сьвету, выліліся ў магутную маніфэстацыю сілы й няўміручасьці беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі, непахіснасьці ў змаганьні за ейнае ажыцьцяўленьне й бязьмежнай волялюбнасьці Беларускага Народу. Шматлікія зычлівыя водклікі і ўдзел у беларускім нацыянальным сьвяце найвышэйшых дзяржаўных мужоў вольнага сьвету на чале з Прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Двайт Айзэнгаўэрам і Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Рычардам Ніксонам, а таксама прыхільная рэакцыя ў Амэрыканскім Сэнаце й Кангрэсе ёсьць вымоўным довадам, што вольны дэмакратычны сьвет ушаноўвае й паддзержвае імкненьні Беларускага Народу да вольнага й незалежнага жыцьця.**

—◇—

## ПРЫВІТАНЬНЕ

### ПРЭЗЫДЭНТА ЗАДЗІНОЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЭРЫКІ АЙЗЭНГАЎЭРА

**З нагоды 40-ой гадавіны абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Айзэнгаўэр пераслаў праз свайго асыстэнта Шэрмана Адамса на рукі старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня К. Мерляка прывітаньне наступнага зьместу (беларускі тэкст пісьма, атрыманы ў тэлетыпным запісе зь Нью Ёрку быў пададзены ў папярэднім нумары «Бацькаўшчыны»):**

**THE WHITE HOUSE**

**WASHINGTON**

**THE ASSISTANT TO THE PRESIDENT**

**March 15, 1958**
**148/58**

**Dear Mr. Mierlak:**

**The President has asked me to convey to you and to the members and friends of the Byelorussian-American Association his greetings and good wishes for the success of your convocation.**

**The enterprising spirit and many skills of your citizens of Byelorussian origin have made a substancial contribution to the greatness of our country.**

**Although celebration this year is being held in a period of peace, it is necessary to be ever on guard to the dangers that threaten the peace in today's anxious world. In the effort to keep our country strong and prepared, we know our citizens of Byelorussian origin are doing their characteristically loyal share.**

**Sincerely,**
**Sherman Adams**

**Mr. Konstanty Mierlak, President**
**Byelorussian-American Association, Inc.**
**33 Norfolk Street**
**New York 2, New York.**

## *Малітва ў Сэнаце Задзіночаных Штатаў Амэрыкі*

**ПРАЧЫТАНАЯ 24 САКАВІКА 1958 Г. ЯГО ПРААСЬВЯШЧЭНСТВАМ АРХІЯПІСКАПАМ ВАСІЛЁМ З НАГОДЫ 40-ОЙ ГАДАВІНЫ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ**

У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усемагутны Божа! Гэтую малітву нашую мы пасылаем да Цябе ў гадавіну абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, свабода якое была няміласэрна патаптаная грубою бязбожнаю сілаю, мільёны мучанікаў якое перад Прастолам Тваім моляць Цябе: учыні Суд Твой праведны, памажы нам вярнуць свабоду нашую і ўсім паняволеным народам.

У гэты ўрачысты мамэнт мы просім Цябе, Божа й Войча наш, будзь міласьцівы да нас, бо Ты вялікі й цуды чыніш. Ласка Твая да Нябёсаў, а Праўда да аблокаў сягае! Справядлівасьць Твая — быццам Божыя горы, а суды Твае — бездань вялікая!

Міласэрны Войча наш! Ты багаславіў народ Краіны гэтае. Ты памог яму ўстанавіць Уладу з народу, народам і для народу. Прадвечны Божа! Багаславі й ахіні Ласкаю Тваею дзяржаўных кіраўнікоў Краіны гэтае: памажы ім у іх змаганьні за Тваю Праўду й Свабоду для ўсіх паняволеных народаў, каб усе людзі, дзеці Твае, маглі славіць Цябе ў вольных Краінах сваіх.

Мы шчыра й горача просім Цябе, Божа й Спасе наш, прымі гэтую Малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі і нашую Маці-Беларусь!

Хай цудоўнае імя Тваё, Божа й Войча наш, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, славіцца й багаслаўляецца сяньня, і заўсёды, і навекі вечныя. Амін!



**ВІЦЭ-ПРЭЗЫДЭНТ ЗАДЗІНОЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЭРЫКІ РЫЧАРД НІКСОН прыймае Беларускую Дэлегацыю ў сваім кабінэце ў Капітолю 24 сакавіка 1958 году ў Вашынгтоне. Зь лева на права: Сп. Канстанцін Мярляк, Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль, Яго Эксцэленцыя Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксон, Сэнатар ад Нью Ёрку Ірвінг М. Айвс і Пастар Сэнату Др. Фрэдэрык Браўн Гаррыс**

## Беларуская Дэлегацыя ў Віцэ-Прэзыдэнта ЗША Рычарда Ніксона

Дзякуючы стараньням прадстаўнікоў Рады БНР і БАПЦарквы ў мінулым годзе была прачытаная малітва за Беларусь і Амэрыку ў Амэрыканскім Кангрэсе (Палаце Рэпрэзэнтантаў) у сувязі з 39-ай гадавінай векапомнага Акту 25-га Сакавіка. Гэта быў наш вялікі посьпех. Усё беларускае грамадзтва на эміграцыі правільна ганарылася й цешылася зь яго. Гэны гістарычны для нас мамэнт натхніў нашых адказных дзеячоў да далейшых стараньняў, каб у бягучым годзе 40-ая гадавіна абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі была адзначана і ў Амэрыканскім Сэнаце.

Дня 24-га сакавіка сёлета бларускую дэлегацыю ў складзе Яго Высакапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Васіля і сакратара Рады БНР і адначасна старшыню Акруговай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Канстанціна Мерляка наведала Амэрыканскі Сэнат і была прынятая на спэцыяльнай аўдыенцыі Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Рычардам Ніксонам у ягоным кабінэце ў Капітолю.

Перад гэтым беларускую дэлегацыю нязвычайна ветліва прыняў у сваёй сэнатарскай канцылярыі наш прыяцель Сэнатар ад Нью Ёрку Ірвінг М. Айвс. Сэнатар Айвс вельмі прыемна зьдзівіў нашую дэлегацыю, калі заявіў, што Віцэ-Прэзыдэнт Ніксон ужо чакае, каб прыняць нашую дэлегацыю. Хутка пасьля гэтага нашая дэлегацыя ў асысьце Сэнатара Айвса зьявілася ў Сэнаце. Тут Сэнатар Айвс прадставіў нашую дэлегацыю пастару Сэнату Др. Фрэдэрыку Браўн Гаррысу, які вельмі міла яе прывітаў.

Пасьля гэтага Сэнатар Айвс прадставіў Уладыку Васіля і сп. К. Мерляка Я. Э. Віцэ-Прэзыдэнту сп. Рычарду Ніксону.

Віцэ-Прэзыдэнт Ніксон заявіў, што ён вельмі рад прывітаць беларускую дэлегацыю асабліва ў такі ўрачысты мамэнт, якім ёсьць 40-ая гадавіна абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Ён выказаў сваё задаваленьне зь дзейнасьці Амэрыканцаў беларускага паходжаньня як у рэлігійным, гэтак і грамадзкім жыцьці й выразіў сваю ўпэўненасьць, што іхная старая Бацькаўшчына Беларусь будзе хутка вольнай і незалежнай дзяржавай.

У міжчасе фатографы й прэсавыя рэпартэры пастараліся зрабіць фотаздымкі, а пасьля аўдыенцыі задаць некалькі пытаньняў нашым дэлегатам пра Беларусь і Беларусаў.

Час ужо зьбліжаўся да 12 гадзіны, і раптам зазьвінелі званкі, абвяшчаючы гэтым, што сэсія Сэнату распачынаецца. Тады Віцэ-Прэзыдэнт Ніксон узяў пад руку Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Васіля, узьвёў яго на сваю трыбуну й абвесьціў сэнатарам, што Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскап Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы Васіль зараз прачытае малітву ў сувязі з 40-ой гадавінай абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Уладыка Васіль натхнёна прачытаў малітву за Беларусь і Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Тады Віцэ-Прэзыдэнт Ніксон горача падзякаваў яму, заяўляючы, што ягоная малітва ўзапраўды духова ўзмацняе й натхняе да творчае працы.

Уладыка Васіль зыйшоў з трыбуны, і тут яго разам із сп. К. Мерлякам акружылі сэнатары й ня толькі шчыра дзякавалі за іхнае прыбыцьцё ў Сэнат, але й выказвалі свае пажаданьні, каб Беларусь як найхутчэй сталася Вольнай і Незалежнай Дзяржавай.

## „Голас Амэрыкі“ ў Дзень Сакавіковае Гадавіны

**Амэрыканская дзяржаўная радыястанцыя «Голас Амэрыкі» з нагоды 40-ой гадавіны Незалежнасьці Беларусі перадала 31 сакавіка 1958 г. на ўсіх мовах народаў з за зялезнае заслоны спэцыяльную перадачу наступнага зьместу:**

«У Нью Ёрку ў суботу і ў нядзелю адбыліся ўрачыстыя абходы, якімі была адзначаная саракавая гадавіна абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі.

У дзень гэтае гадавіны — дваццаць пятага сакавіка ў вабедзьвюх Палатах Амэрыканскага Кангрэсу — у Сэнаце і ў Палаце Рэпрэзэнтантаў былі прачытаныя афіцыйныя заявы, прысьвечаныя саракавой гадавіне абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Прэзыдэнт Ураду Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі на эміграцыі Мікола Абрамчык прыехаў з Парыжа, каб выступіць з галоўнай прамовай на спэцыяльным урачыстым сабраньні ў Нью Ёрку, зарганізаваным Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем.

На пачатку гэтага тыдня ньюёрскі губэрнатар Гаррыман заклікаў насельніцтва штату Нью Ёрк прыняць удзел у сьвяткаваньні саракагодзьдзя незалежнасьці Беларусі.

Сэнатар Гэмпрфры, выступаючы ў Сэнаце, заявіў, што маскоўскія мэтады здушваньня парываў да свабоды не маглі забіць прагнасьці свабоды ў Беларусаў, якія твораць трэйцюю паводля колькасьці насельніцтва групу Савецкага Саюзу. Сэнатар дадаў: «Мы пэўныя, што яны ніколі ня здушаць яго».

З заявамі з нагоды саракагодзьдзя незалежнасьці Беларусі выступалі таксама сябры Палаты Рэпрэзэнтантаў Робэрт Майцель і сэнатар Ловшы.»

# Урачысты абход Сакавіковай гадавіны ў Нью Ёрку

У той час, калі на бацькаўшчыне бальшавіцкая прапаганда хвальшам і маной падганяе імёны, даты й назовы да саракагодзьдзя фікцыйнае беларускае дзяржавы — БССР, — якая праз дзевяць месяцаў будзе адзначаць саракагодзьдзе зьяўленьня на сьвет, — Беларусы ў Заходнім сьвеце, а сярод іх шматтысячная грамада Беларусаў Амэрыкі, адсьвяткавалі запраўдныя ўгодкі запраўднага Вялікага Прыйсьця, што збылося ўвесну, у Сакавіку, а ня ў лютым студзені.

У Амэрыцы сёлета ўгодкі беларускае Незалежнасьці асабліва плённыя й паказальныя. Знаёміцца з усім матар'ялам давядзецца бадай што на працягу даўжэйшага часу, бо ўсяго за раз ня схопіш ды ўсяго яшчэ й ня відаць.

24 сакавіка Віцэ-Прэзыдэнт Амэрыкі Рычард Ніксон прыняў у сваім габінэце ў Капітолі беларускую дэлегацыю ў складзе Яго Высакапраасьвяшчэнства Ўладыкі Васіля, Архіяпіскапа БАПЦ, і спадара К. Мярляка, старшыні ньюёркаўскага аддзелу БАЗА. У гэты дзень Уладыка Васіль прачытаў у Сэнаце, перад адчыненьнем паседжаньняў, малітву з нагоды вялікага нацыянальнага сьвята Беларускага Народу.

У гутарцы зь беларускай дэлегацыяй Віцэ-Прэзыдэнт Ніксон выказаў сваю глыбокую надзею, што прыйдзе дзень, калі Беларусь будзе вольнай дзяржавай сярод іншых вольных народаў.

Таго-ж 24 сакавіка мэр места Нью Ёрку Робэрт Вагнэр прыняў у меставай ратушы беларускую дэлегацыю ад БАЗА ды Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Мэр Вагнэр даручыў беларускай дэлегацыі праклямацыю, якою з нагоды саракагодзьдзя абвешчаньня незалежнасьці БНР дзень 25 сакавіка 1958 году быў абвешчаны Беларускім Днём у Нью Ёрку з просьбай да ўсіх належна ўшанаваць гэтую нагоду. Беларуская дэлегацыя, із свайго боку, перадала мэру — з адмысловай прысьвятай — выданую нядаўна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем кнігу дакумэнтаў пад загалоўкам «Незалежнасьць Беларусі, 25 сакавіка 1918 году». Сябры ЗБМА, у нацыянальных строях, прышпілілі мэру Вагнэру нагрудны значок свае арганізацыі.

Самая ўрачыстасьць сьвяткаваньня Сакавіковага Акту адбылася ў Нью Ёрку 30 сакавіка, у нядзелю.

Напярэдадні, у суботу, праз ньюёркаўскую радыястанцыю WEVD, ад гадзіны 12.30 да 1.00 была перададзеная адмысловая праграма, прысьвячаная ўгодкам незалежнасьці Беларусі. Праз радыё прамаўлялі таксама Ўладыка Васіль, гэн. Ф. Кушаль і старшыня БАЗА мгр. М. Кунцэвіч.

У сыботу 29 сакавіка ў катэдры Сьвятога Патрыка, найбольшай каталіцкай сьвятыні Амэрыкі, а. Францішак Чарняўскі адслужыў урачыстую Багаслужбу пры лічным удзеле Беларусаў Нью Ёрку й ваколіц.

У нядзелю 30 сакавіка ў беларускім Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у саслужэньні сабornага духавенства адслужыў сьв. Літургію й Малебен за Беларусь.

У нядзелю папаўдні, у ваднэй з прыгожых заляў гатэлю «Білтмор» старшыня Акруговае ўправы БАЗА сп. К. Мярляк адчыніў урачыстую акадэмію. Прачытаўшы прывітальны ліст зь Белага Дому, ён перадаў слова Прэзыдэнту Рады БНР інж. М. Абрамчыку.

У сваёй прамове Прэзыдэнт Абрамчык, гаворачы пра наважанае змаганьне беларускага народу за ідэялы 25 Сакавіка, параўнаў 40-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці з саракагодзьдзем вайны беларускага народу з маскоўскімі панявольнікамі. Гэта ня першая нашая зацяжная вайна з Маскоўшчынай, сказаў Прэзыдэнт, мы маем шмат прыкладаў гэткіх войнаў у нашай гісторыі (прыкл., Лівонскія), але цяпер мы не адны — з намі нашыя арганічныя хаўрусьнікі, народы Цэнтральнай Эўропы, з намі Захад, як, ўжо зразумеў панявольніцкую сутнасьць бальшавізму, і Беларускі Народ выйдзе пераможцам з гэтага цяжкога змаганьня.

З прыгожай дэклямацыяй («Малітва да Жыровіцкае Маці Божае» Н. Арсеньневай) выступіла на акадэміі сп-чня Л. Рагуля.

Мілае ўражаньне зрабіў таксама «Танец красак», выкананы дзецьмі беларускае школы ў Нью-Брансьвіку, а падрыхтаваны сп-няй В. Кабушка (пры фартап'яне: сп-чня Г. Кабушка). Апрача гэтага, у мастацкую частку ўвайшлі: песьні кампазыцыі праф. Эльзы Зубковіч, (таксама «Баркароля» з Баек Гофмана» Офэнбаха), пры ейным-жа акампаньямэньце, у выкананьні сп-ні А. Маркоўскай, ды дзьве песьні ў выкананьні сп-чні К. Ярашэвіч ( арыя з «Рыголетто» й «Калыханка» Э. Зубковіч).

На акадэміі прамаўлялі: прафэсар Нортсвэстэрнскага ўнівэрсытэту ў штаце Ілінойс Кэнэтс Коўлгрув (ад імя амбасадара Кромвэла й ад імя Амэрыканскага Грамадзкага Камітэту для Замежных Сувязяў), кангрэсмэн ад Нью Ёрку Фрэнцыс Дорн, судзьдзя Дж. Кокс і інш. (Некаторыя з прамоваў ды іншыя матар'ялы, зьвязаныя з угодкамі, будуць пазьней апублікаваныя.)

Сп. К. Мярляк, які вёў акадэмію, пазнаёміў усіх прысутных на залі з дастойнымі гасьцямі, якія сваёй прысутнасьцяй ушанавалі беларускае сьвята. Прыемна было вітаць воплескамі прысутных на акадэміі старых беларускіх дзеячоў, удзельнікаў падзеяў 1917—1920 гадоў. Да іх належаць: настаўнік Язэп Гладкі, удзельнік Усебеларускага Кангрэсу ад беларускіх вайскавікоў; др. Я. Станкевіч, сябра віленскае дэлегацыі ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту, удзельнік абвешчаньня акту Незалежнасьці Беларусі; гэн. Франьцішак Кушаль, актыўны арганізатар беларускага вайсковага руху БНР, сп. Міхась Міцкевіч, супрацоўнік газэты «Вольная Беларусь» (1917), а. Хведар Данілюк, ахвіцэр Слуцкага паўстаньня.

Сп. К. Мярляк, напрыканцы абходу, прачытаў таксама атрыманыя ад палітычных і грамадзкіх дзеячоў Амэрыкі вітаньні Беларусаў з угодкамі Незалежнасьці (гл. сьпіс у іншым месцы гэтага нумару).

Былі прачытаныя таксама праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці ў штатах: Нью Ёрк, Род Айлэнд, Мэрылэнд, Нью-Джэрзы. Дзень Беларускае Незалежнасьці быў абвешчаны таксама ў штаце Огаё.

Пасьля акадэміі адбылося прыняцьце.

У панядзелак 31 сакавіка ў Амэрыканскім Кангрэсе, з нагоды саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, была прачытаная малітва за Беларусь. Малітву прачытаў а. Ф. Чарняўскі, які наведаў Вашынгтон разам із старшынём ЗБМА сп. В. Станкевічам. Беларуская дэлегацыя была прынятая ў Вашынгтоне кангрэсмэнам Ф. Дорнам, а пасьля малітвы ў Кагрэсе сустрэлася зь іншымі кангрэсмэнамі, сымпатыкамі беларускае вызвольнае справы.

Трэба сказаць, што вельмі шмат да ўдачаў сакавіковых урачыстасьцяў у Амэрыцы прычынілася (і будзе яшчэ прычыняцца) выданая тут нядаўна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем кніга дакумэнтаў «Незалежнасьць Беларусі, 25 сакавіка 1918 году», а таксама энэргічная падрыхтоўка сьвяткаваньня з боку старшыні Акруговае Ўправы БАЗА ў Нью Ёрку сп. К. Мярляка ды іншых сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Пра водгукі амэрыканскае й іншамоўнае прэсы на ўгодкі Незалежнасьці БНР у ЗША будзе пададзена, спадзяемся, у ваднэм з наступных нумароў «Бацькаўшчыны», а таксама ў газэце «Беларус».

**А. Будзіч**



**ПРЭЗЫДЭНТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ ІНЖ. МІКОЛА АБРАМЧЫК прамаўляе на ўрачыстай Акадэміі 40-ой гадавіны абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку**



**САРАКАВАЯ ГАДАВІНА АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ**
**Урачыстая Акадэмія ў Нью Ёрку. Від на пярэднюю часьць залі.**

# 25-га Сакавіка ў Кліўлэндзе

Кліўлендзкі аддзел БАЗА адзначаў 40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублік. 30-га сакавіка гг.

Да сьвятказаньня калёныя рыхтавалася ўжо ад даўжэйшага часу, каб гэтым разам ўгодкі Сакавіка адзначыць больш урачыста.

Усе кангрэсмэны й санатары штату Огайо былі ня толькі паінфармаваныя аб сьвяткаваньні, але наагул аб беларускай справе; некаторыя зь іх атрымалі на сьвяткаваньне запросіны. Каля дваццаці розных арганізацыяў іншых нацыянальнасьцяў атрымалі запросіны й даведкавыя матар'ялы аб Беларусі.

Дзень, калі наш аддзел адзначаў 40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР — 30 сакавіка — быў Губэрнатарам праклямаваны Беларускім Днём у штаце Огайо.

У нядзелю 30 сакавіка сьвяткаваньне пачалося сьв. Літургіяй у царкве Цудатворнага Абраза Жыровіцкае Божае Маці. У часе казаньня а. мітр. прат. М. Макаровіч насьветліў вернікам важнасьць гэтага сьвяткаваньня ды справядлівасьць дамаганьняў беларускага народу быць незалежным. Ён заклікаў вернікаў памаліцца за палеглых за Беларусь, а пасьля адсьпяваньня «Вечнае памяці», служыў малебен за Беларусь, дзе вернікі маліліся за сваіх блізкіх на Бацькаўшчыне й рассыпаных па сьвеце. Хорам, як і заўсёды, кіраваў сп. К. Кіслы.

Каля чацьвертай гадзіны папаўдні сабраліся Беларусы й госьці на ўрачыстую Акадэмію Адкрыў яе сп. В. Шчэцька, старшыня мясцовага аддзелу БАЗА, і сп-ня Іра Каляда адсьпявала амэрыканскі гімн. Пасьля хвіліны цішы па загінуўшых беларускіх змагарох, сп-ня Маня Лук'янчык зачытала праклямацыю Губэрнатара, што 30 сакавік абвешчана Беларускім Днём у штаце Огайо.

Сп. Васіль Пляскач з Дэтройту прачытаў рэфэрат у ангельскай мове. Гэта быў прыгожы рэфэрат зь цікавым зьместам, і прысутныя госьці шмат даведалі ся аб Беларусі й сяньняшніх імкненьнях беларускага народу.

Пасьля рэфэрату сп. Пляскач прадставіў прысутным Mr. Joseph M. Gallagher'a, ведамага дзеяча гораду Кліўленду, які прачытаў адмысловую прамову да Беларусаў кангрэсмэна Michael Feighan'a, бо гэты апошні ня мог прыбыць на Акадэмію. Гэта была выдатная прамова ў вабароне беларускае справы.

Сп. Шчэцька прадставіў прысутным шматлікіх гасьцей ад іншых нацыянальнасьцяў, якія ў сваю чаргу віталі Беларусаў з нацыянальным сьвятам.

Мастацкай часткай урачыстасьці быў мантаж «Змагарны шлях», які свайго часу ставіўся ў Лювэне. Пастаноўку й падрыхтоўку заўдзячваецца сп. К. Кісламу, нашаму дырыгенту. Ён падабраў выканаўцаў — камэнтатараў, дэкляматараў і солё — ды падрыхтаваў хор, распрацаваўшы песьні на мяшаны хор, а таксама апрацаваў некаторыя мэлёдыі.

Галоўную частку камэнтару выконваў сп .Ю. Каляда. Трэба адцеміць, што ён

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Пісьмовыя прывітаньні

**Апрача прывітальных прамоваў, сказаных на Акадэміі ў Нью Ёрку, былі атрыманыя наступныя пісьмовыя прывітаньні ад дзяржаўных кіраўнікоў, палітыкаў і грамадзкіх ды культурных дзеячоў Амэрыкі:**

The President of the United States,
Averell Harriman, Governor, State of New York,
Robert B. Meyner, Governor, State of New Jersey,
Foster Furculo, Governor of the Commonwealth of Massachusetts,
George M. Leader, Governor of The Commonwealth of Pennsylvania,
Orville L. Freeman, Governor, State of Minnesota,
John E. Davis, Governor, State of North Dakota,
Abe Stark, President, City Council of New York,
Richardson Dilworth, Mayor, City of Philadelphia,
Albert V. Maniscalco, President Borough of Richmond,
Chester W. Paulus, Mayor, City of New Brunswick,
James J. Farlay, Assistant Commissioner, Borough of Manhattan,
Harold Kolovsky, Acting Attorney General, State of New Jersey.

Jacob K. Javits, Senator of New York,
Irving M. Ives, Senator of New York,
Gordon Allott, Senator of Colorado,
Henry Dworshak, Senator of Idaho,
William E. Jenner, Senator of Indiana,
Edward Martin, Senator of Pennsylvania,
Karl E. Mundt, Senator of South Dakota,
Hubert H. Humphrey, Senator of Minneapolis,
J. Allen Frear, Jr., Senator of Delaware,
Warren G. Magnuson, Senator of Washington,
William Proxmire, Senator of Wisconsin,
Allen J. Ellender, Senator of Louisiana,
Dennis Chavez, Senator of New Mexico,
John Sherman Cooper,Senator of Kentucky,
Richard B. Russell, Senator of Georgia,
FrederickG. Payne, Senator of Maine,
Alexander Smith, Senator of New Jersey,
A. Willis Robertson, Senator of Virginia.

Herbert Zelenko, Congressman of New York,
William J. Green, Jr., Congressman of Pennsylvania,
Vincent J. Dellay, Congressman of New Jersey,
Abraham J. Multer, Congressman of New York,
John H. Ray, Congressman of New York,
Alfred E. Santangelo, Congressman of New York,
Ivor D. Fenton, Congressman of Pennsylvania,
Eugene J. Keogh, Congressman of New York,
W. R. Poage, Congressman of Texas,
J. L.Pilcher, Congressman of Georgia,
Ralph J. Scott,Congressman of Carolina,
Geo. S. Long, Congressmann of Louisiana,
Hugh Scott, Congressman of Pennsylvania,
Charles E. Bennett, Congressman of Florida,
Ray J. Madden, Congressman of Indiana,
Phil Weawer, Congressman of Nebraska,
George Huddleston, Jr., Congressman of Alabama,
Edward J. Robeson, Jr., Congressman of Virginia,
A. L. Miller, Congressman of Nebraska,
Williard S. Curtin, Congressman of Pennsylvania,
Frank J. Becker, Congressman of New York,
Lester Holzman, Congressman of New York,
Joe Holt, Congressman of California,
Clement J. Zablocki, Congressman of Wisconsin,
Peter Frelinghuysen, Congressman of New Jersey,
Peter W. Rodino, Jr., Congressman of New Jersey,
Hugh J. Addonizio, Congressman of New Jersey,
Frederick R. Coudert, J., Congressman of New York,
Florence P. Dwyer, Congressman of New Jersey,
Robert W. Kean, Congressman of New Jersey,
Milton W. Glenn, Congressman of New Jersey.

Archibald Douglas, Jr., Assemblyman of New York,
Francis W. Doheny, Assemblyman of New York.

Frederick H. Boland, Permanent Representative of Permanent Mission of Ireland to the United Nations,
Ambassador Emilio Arenales, Mission Permanente de Guatemala,
Sawanarong, Ambasador of Laos,
Ambasador Esin, Turkish Permanent Mission to the United Nations.

Edward L. Freers, Director Office of Eastern European Affairs Department of State,
William L. Clark, Assistant Director, United States Inform. Agency,
Joseph T. Kendrick, Jr., Dept. of State,
Nathaniel Davis, USSR Affairs, Department of State,
E. P. Bouchard District Director, Immigration and Naturalization Serv.,
Johannes Kaiv, Acting Consul General of Estonia,
Albert B. Herman, Director Republican National Committee,
George Meany, President, American Federation of Labor and Congress of Industrial Organizations.
John W. Nason, Foreign Policy Association,
Reginald T. Townsend, Vice President, American Committee for Liberat.,
B. M. Mc Kelway, Editor, The Evening Star - The Sunday Star, Washingt.
Villis Masens, Chairman, Assembly of Captive European Nations,
James G. Mandalian, editor The Armenian Review,
B. E. Kuniholm, Director, American Committee for Liberation,
Lewis Webster Jones, Rutgers - The State University,
Mary L. Bunting, Rutgers - The State University,
Lev. E. Dobriansky, Chairman, Ukrainian Congress Committee of Am.,
Josef Kalvoda, Czech Christian Democratic Movement,
M. Lebed, Supreme Ukrainian Liberation Council,
Mrs. Kermit Roosevelt of New York,
Mr. Joseph Lipski of Washington,
Dr. Otton K. Pehr of Long Island,
General Wł. Bortnowski of Stamford,
Prof. Oscar Halecki, Polish Institute of Arts and Sciences,
Mr. Joseph Mikus, Slovak National Council.

# Незабыўны дзень

### САКАВІКОВАЕ СЬВЯТА Ў ПАРЫЖЫ

Ня гледзячы на тое, што беларуская калёнія ў Парыжы невялікая, аднак на сьвяткаваньне 40-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі сабралася столькі суродзічаў, што й царква й сьвяточная заля былі літаральна перапоўненыя.

30 сакавіка а 11-ай гадзіне ў царкве сьв. Людовіка людзі злучылі свае шчырыя малітвы зь літургічнымі малітвамі Службы Божай, адпраўленай за Беларусь і Беларускі народ. Надзвычай прыгожа сьпяваў хор, пранікнёнымі былі словы прынагоднага казаньня а. Льва.

А 4-ай гадзіне вялікая заля Хрысьціянскага Сындыкату запоўнілася Беларусамі й гасьцьмі ад іншых народаў, што прыйшлі ўшанаваць беларускае нацыянальнае сьвята. Урачыстую акадэмію адкрыў Генэральны сакратар Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі сп. М. Наумовіч, які, пасьля малітвы «Магутны Божа», прачытаў кароткі рэфэрат у францускай мове аб гісторыі незалежнасьці Беларусі. Сп. В. Міцкевіч прачытаў даклад аб значэньні Сакавіковага Акту. З днём нацыянальнага сьвята віталі Беларусаў прадстаўнікі паасобных народаў і арганізацыяў.

Пасьля кароткага перапынку адбылася мастацкая частка пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага. Пачалася яна ад народнае песьні «Ой ель мая, ель зялёная» у выкананьні сп. сп. Ніны Дударэвіч і Веры Міцкевіч. Усьлед за тым удзельнікі мастацкае часткі дэклямавалі беларускія патрыятычныя вершы, што перапляталіся народнымі песьнямі, выклікаючы ажыўленыя воплескі.

Калі-ж было абвешчана, што маюць выступіць ведамая беларуская опэрная сьпявачка Барбара Вержбаловіч і ейная пляменьніца Галіна Ганчарэнка, ды калі абедзьве сьпявачкі ў прыгожых народных вопратках паказаліся на залі, іх сустрэлі громам воплескаў. Лішнім было-б пісаць аб высокім мастацтве выкананьня; усе песьні ўзрушылі й усхвалявалі прысутных.

Настрой выкліканы народнымі песьнямі, яшчэ больш узьняўся, калі на залі паказаліся беларускія дзеткі — Тэрэза Ільляшэвіч, Клёдына й Гэлена Буйвілы, Таня Кавалеўская — у вельмі прыгожых народных вопратках ды выканалі беларускі народны танец «Полька Янка». Гэтая мастацкая частка была вельмі ўдала закончаная бадзёрымі беларускімі песьнямі ў дуэтным выкананьні сп. сп. Барбары Вержбаловіч і Галіны Ганчарэнка. Бадзёрасьць гэтая перадалася ўсім прысутным ды заахвоціла іх да агульнага сьпеву. Уся заля разам з паважанымі сьпявачкамі адсьпявала дзьве народныя песьні.

Сьвяточная акадэмія закончылася невялікім прыняцьцем.

Трэба адцеміць, што гэтак удала зарганізаванае сьвяткаваньне ў Парыжы з нагоды 40-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося дзякуючы ахвярнасьці ды стараньням многіх добрасумленных Беларусаў, а ў першую за што й належыцца яму шчырая падзяка дзякуючы а. Льву, які ня толькі дапамагаў усім парадамі, але й чынамі, дзяка ад беларускае калёніі.

Гэтае сьвята пакінула ў беларускіх сэрцах незабыўнае ўражаньне ды ўмацавала веру ў ажыцьцяўленьне нацыянальных ідэалаў, выражаных у векапомным Сакавіковым Акце.

**Аўген Кавалеўскі**

# 25-га Сакавіка ў Крэзо (Францыя)

Беларуская калёнія ў Крэзо адзначала сёлета Сакавіковыя ўгодкі 23 сакавіка. Праўда, гэтым крыху апярэдзілі афіцыяльную дату, але, нажаль, інакш ня выходзіла.

Адказную працу за падрыхтоўку ўзяла на сябе, як і заўсёды, управа мясцовай сэкцыі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі.

Ужо ў сыботу 22 сакавіка прыбыў да нас а. Леў Гарошка, якога сустрэла цэлая група нашых суродзічаў.

У нядзелю зранку пачалі ўжо зьбірацца грамадкі Беларусаў паблізу царквы сьв. Карла. А гадз. 11 распачалася Багаслужба за Беларусь і яе народ. Апрача Беларусаў тут прысутнічалі і Украінцы.

Пасьля Багаслужбы ўсе перайшлі да гасподы й заселі за сталамі да агульнага сяброўскага абеду, за якім у прыемнай атмасфэры незаўважна надыйшла й 15-я гадзіна, і ўжо трэба было перайсьці ў мясцовае мэроўства, дзе мелася адбыцца Акадэмія.

Заля мэроўства была ўжо загадзя ўдэкараваная беларускім нацыянальным сьцягам, Пагоняй ды букетамі кветак. На Акадэмію таксама прыбыло шмат Украінцаў.

Пасьля кароткага прывітальнага слова старшыні сэкцыі АБФ сп. Б. Н. усе ўстаўшы набожна праслухалі адыграную з кружэлкі малітву «Магутны Божа».

Рэфэрат на тэму дня прачытаў таксама старшыня сэкцыі. Сп. М. Булыга адчытаў Маніфэст Рады БНР. З гарачым прывітальным словам ад імя мясцовай украінскай калёніі выступіў старшыня сэкцыі АУРФ сп. Гаўрылец. Айцец Леў у сваім выступе падчыркнуў глыбокае значаньне належнага адзначаньня нацыянальных сьвятаў.

Перад заканчэньнем афіцыяльнай часткі прысутныя хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць змагароў паўшых у абароне ідэалаў Акту 25 Сакавіка.

Мастацкую частку распачаў 10-гадовы юнак Янук Рашкевіч дэклямацыяй вершу «Гэй, наперад!» З далейшымі дэклямацыямі выступалі сп. сп. В. Горват, Ф. Рашкевіч і М. Булыга.

Наступна ўсе прысутныя з захапленьнем праслухалі канцэрт беларускіх народных і патрыятычных песьняў з кружэлак, якія мімавольна пераносілі думкі слухачоў на нашую паняволеную Бацькаўшчыну.

# 40-ая гадавіна абвешчаньня Незалежнасьці БНР у Таронта

Сьвяткаваньне саракавых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці БНР адбылося ў Таронта ў нядзелю 23-га сакавіка.

Раніцою ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага была ўрачыстая Сьв. Літургія. Прысутнічала шмат народу з Таронта й ваколіцаў. Сярод прысутных быў і дастойны госьць сп. Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык.

А трэйцяй гадзіне папаўдні вялікая заля ў Славацкім Доме па берагі запоўнілася людзьмі. Яшчэ мусіць ніколі ня было тут на сакавіковых сьвяткаваньнях столькі людзей як сёлета. Папрыяжджалі з Ашавы, Садбуры, Стратфарду, Лёндану й з навакольных меншых мясцовасьцяў.

Акадэмію адчыніў прывітаньнем старшыня ЗБК сп. А. Маркевіч, пасьля якога асноўны даклад аб гістарычным дні чытаў сп. д-р. В. Жук.

Сп. К. Акула прачытаў ліст-прывітаньне ад прэм'ер-міністра Канады Джан Дыфэнбэйкара, ад іншых канадыйскіх установаў і ад беларускіх арганізацыяў. Прысутных вітаў ведамы ўжо з папярэдніх разоў заступнік міністра працы канадыйскага ўраду сп. Артур Малоні, а ад Антарыйскай Эгзэкутывы ССФ (сацыялістычная партыя) — сп. А. Брувін. Ад Славацкае Лігі з прывітаньнем выступаў сп. Ян Цпрно.

Сп. Прэзыдэнт Абрамчык, спыніўшыся над асягненьнямі беларускага вызвольнага руху за апошніх сорак гадоў і над цяперашняй палітычнай сытуацыяй, сьцьвердзіў, што крымінальны бальшавіцкі гігант, дарма што сяньня яшчэ выкарыстоўвае палітычную нясьведамасьць шматлікіх народаў і нерашучасьць заходніх дзяржаваў, сам у сваёй сярэдзіне ўжо зьяўляецца нявылячальна хворым і што час вызваленьня нашага народу ўжо недалёкі.

У канцэртнай частцы праграмы выступала нядаўна зарганізаваная танцавальная група, што вельмі ўдала выканала «Крыжачок» і «Лявоніху». Уладзімер Барановіч добра прадэклямаваў верш Купалы «Я ад вас далёка». Дзьве сяброўкі ЗБК з Ашавы — сп. сп. Лішчонак і А. Харэвіч прасьпявалі «Ці-ж вецер ня вее», а вучаніца першае клясы гімназіі Валя Руднікевіч выканала на акардыёне песьню «Васількі» і два танцы. Вельмі ўдала выйшаў нумар камічнай полькі, выкананы Ніная Баўгаравай і Валяй Філановіч. Беручы пад ўвагу скупыя мясцовыя аматарскія сілы, трэба сказаць, што канцэртная частка праграмы выйшла ўдала.

**Прэса аб сьвяткаваньні**

Усе тры мясцовыя англамоўныя газэты далі зацемкі аб сьвяткаваньні Беларусаў. Варта заўважыць, што былі яны карацейшыя чымся мы жадалі-б, з тэй прычыны, што Канада стаяла напярэдадні выбараў у парлямант і дзеля таго асноўная ўвага прэсы й была прысьвечаная выбарам.

Мясцовы польскі поўтыднёвік «Звёнзковец» напісаў вельмі прыхільны да Беларусаў артыкул п. заг. «Незалежная Беларусь» у выданьні за 22-га сакавіка. Аб беларускім Дні Незалежнасьці пісала таксама мясцовая чэская газэта «Новы домов».

**Сакавік на радыё-хвалях Канады**

Дзякуючы стараньням Галоўнае Управы ЗБК, радыёперадачы, прысьвечаныя 25-му Сакавіку, адбыліся у Канадзе аж з чатырох радыёстанцыяў. Вось яны па чарзе:

1. **СіБіСі на трансканадыйскай сетцы** перадавала паўгадзіны беларускіх народных песьняў з камэнтарамі ў пятніцу а гадз. 9-й вечарам з Таронта. У праграму ўвайшлі наступныя песьні і мэлёдыі: «Лявоніха», «Бацькаўшчыне» (харавая), «Захацела баба ўзбагацець» (дзявочы квартэт), адаптацыя зь Цікоцкага на скрыпку, выкананая вельмі ўдала сп. Раманавым, «Кума-ж мая, кумачка», «Вярба», «Бульба», «Полька» і «Ой ляцелі гусі». Вялікая падзяка за гэту добрую й прыгожую праграму належыцца сп. Раманаву — музычнаму дырэктару і сп-ні Лесі Зубрак — камэнтатарцы, а таксама дзявочаму беларускаму квартэту.

2. **Праграма з Ст-Томас**, дзякуючы стараньням Лёнданскага адзьдзелу ЗБК, адбылася ў панядзелак 24-га сакавіка а 7 гадз. вечарам. Камэнтары да беларускіх патрыятычных песьняў падрыхтаваў паангельску й пабеларуску сп. К. Акула.

3. **Праграма з Гамілтону** адбылася ў аўторак а гадзь. 9.30 вечарам, 25-га сакавіка. Ведамая прыяцелька Беларусаў і іншых паняволеных народаў, радыёкамэнтатарка сп-ня Эдыт Гайдэр прысьвяціла частку свайго часу знаемлячы слухачоў зь Беларусяй і 40-мі ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці БНР.

4. **Праграма з Садбуры,** дзякуючы фінансавай ахвярнасьці сябры ЗБК сп. Каранеўскга, адбылася ў нядзелю 30-га сакавіка папаўдні а гадз. 4-й. Гэта была тая самая паўгадзінная праграма з камэнтарамі й беларускімі патрыятычнымі песьнямі, што была падрыхтаваная супольна і для Лёнданскага адзьдзелу ЗБК.

**М. К-р**

### У МАНЧЭСТЭРЫ

У нядзелю 30. 3. 1958 г. Беларусы Манчэстэру й ваколіц годна адзначылі 40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

А гадз. 12-ай у залі мясцовага Беларускага Дому а. А. Крыт адслужыў адмысловы малебен і на заканчэньне сказаў прынагоднае казаньне.

Акадэмія адбылася ў сьвятліцы Беларускага Дому. Адкрыў яе старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. М. Яськевіч, на прапанову якога прысутныя хвілінай цішы ўшанавалі памяць усіх тых што жыцьцё сваё аддалі за ідэалы Акту 25 Сакавіка.

Даклад на тэму Акту 25 Сакавіка даў сп. А. Шацько; трэба адзначыць што даклад быў вельмі добра падрыхтаваны й таму выклікаў вялікае зацікаўленьне.

Сакавіковае сьвяткаваньне закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

На сьвяткаваньні было сабрана 4 фунты й 13 шылінгаў на Фонд БНР.

**М. Стаўпіскі**

Сьвята закончылася — людзі разыйшліся. Але ў сэрцы сваім кажны панёс радасьць ды веру ў тое, што Беларусь жыве й будзе жыць ды ў недалёкай будучыні станецца вольнай між вольнымі й роўнай між роўнымі дзяржавамі.

**Б. Н.**

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў САДБУРЫ (КАНАДА)

Сакавіковае сьвята Садбурскі аддзел ЗБК сьвяткаваў у сыботу 29 сакавіка.

На сьвяткаваньне сабралася даволі шмат людзей, як сваіх так і гасьцей іншых нацыянальнасьцяў.

Старшыня аддзелу сп. Мікалай Будзька адкрыў афіцыяльную частку праграмы, вітаючы прысутных з днём абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ды заклікаючы да супольнай працы, згоды й агульнага высілку дзеля дасягненьня мэты вызначанай Актам 25 Сакавіка.

Прадстаўнік Галоўнай Управы ЗБК сп. Кастусь Акула даў вельмі зьмястоўны й абшырны рэфэрат прысьвечаны 40-ым угодкам абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржавай.

Дастойны госьць з Таронта, а. Міхаіл, вітаючы прысутных заклікаў моцна верыць і гуртавацца вакол сваёй Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну закончылася гэтая афіцыяльная частка, пасьля якое прысутныя заселі да супольнае вячэры, якая прайшла ў надзвычайна прыемнай і сардэчнай атмасфэры.

Назаўтрае, 30 сакавіка, а. Міхаіл у суслужэньні а. Аўтакефані, сьвятара УАПЦ, адслужыў Багаслужбу за Беларусь і Беларускі народ.

Таго-ж самага дня а гадз. 4-й мясцовая радыястанцыя C. H. N. O. - 900 перадала паўгадзінную перадачу ў ангельскай і беларускай мовах зь беларускімі песьнямі. Гэтая перадача была прысьвечана 40-ым угодкам Сакавіковага Акту.

Управа Садбурскага аддзелу ЗБК складае сп. Кастусю Каранеўскаму шчырую падзяку за пакрыцьцё коштаў радыяперадачы. За ўмелае падрыхтаваньне супольнае вячэры Управа дзякуе сп-ні Тацяне Курыловіч ды ўсім іншым, хто да гэтага спрычыніўся.

**Наркевіч**

### НА ЎРАЧЫСТАЙ АКАДЭМІІ Ў АШАВЕ (КАНАДА)

Ашаўскі аддзел Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе ўрачыста адзначыў 40-ыя ўгодкі вялікага Сакавіковага Акту ў сыботу 22 сакавіка.

А 7-й гадзіне ўвечары, у доме сп-ва Харэвічаў сабралася даволі вялікая колькасьць сябровак і сяброў арганізацыі ды запрошаных гасьцей. Старшыня мясцовага аддзелу — сп. М. Кашагуб — прывітаў усіх прысутных зь вялікім беларускім нацыянальным сьвятам. Сп. Б.

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

# Творы Максіма Багдановіча 24)

## З чужое глебы

**(1913—1916)**

## Пераклады

### ПАМЯТНІК

**(Пераклад з Гарацыя асклепіядаўскім вершам)**

Лепшы медзі сабе памятнік справіў я,
Болей усіх пірамід царскіх паднятуся ён;
Ня зруйнуе яго сівер, ні ёдкі дождж,
Ні гадоў чарада, вечнага часу рух.
Ня зусім я памру, лепшая часьць мяне
Не зазнае хаўтур; слава мая ўвесь час
Між нашчадкаў расьці будзе, пакуль ўсхадзіць
Зможа зь дзедавай удвох на Капітолі жрэц.
Пра мяне гаварыць будуць: «Раджоны там,
Дзе шумлівы Аўфід шпарка ў палёх імкне,
Дзе царыць над людзьмі бедны вадой Даўн, —
Ён да славы дайшоў, хоць і ня з панства быў».
Першы стаў я складаць на эолійскі лад
Ў нашым родным краі песьні пад лірны звон.
Ўсе заслугі мае, Муза, з пашанай зьліч
І лаўровым вянком мне валасы пакрый.

### ІКАР І ДЭДАЛЬ

**(„Metamorphoses“ Авідыя, кн. 8-ая, вершы 189—220)**

Дэдаль пачаў чарадой прыладжаваць пер'е. Насамперш
Дробныя, дальш падаўжэй, і думаць-бы можна, што быццам
Пер'е на куп'і растуць. Складалася так-жа патроху
З розных няроўных кускоў чароту жалейка пастушша.
Далей ён ніткай зьвязаў сярэдняе пер'е, а рэшту
Воскам зьляпіў на канцох. Скрапіўшы такой працай крылы,
Дэдаль іх трохі загнуў, каб да птушачых сталі падобны.
Ікар, ягоны сынок, ня ведаўшы, што ён бярэцца
Ў час той за згубу сваю, — ад ветру што лётала, пер'е
Спрытна лавіў, жоўты воск мяў рукамі сваімі і шкодзіў
Дзіўнай рабоце айца гульнёй . . . Калі майстар закончыў
Працу сваю, дык тады прывязаў сам к плячом сваім крылы
І, размахнуўшыся, ўраз падняўся ў паветра. «О, Ікар!»
Дэдаль прамовіў сынку, каб яго навучыць: «О, малю я,
Каб пасярэдзіне ты паляцеў; калі ніжай, чым трэба,
Будзеш імкнуць, дык вада тваё крылы памочыць. Калі-ж ты
Вышай у неба ўзьляціш, — іх сона пякучае спаліць.
Лепей ляці між вадой і між сонцам. Працу цябе далей,
Кінь на Геліку глядзець, на Арыянаў меч, на Баота.
Але за мной павандруй». Тут-жа сына лятаць навучыў ён
І прывязаў да плячоў яго крылы, нязвычныя людзям . . .
Ў час, калі Ікара так навучаў, клапаціўшыся, бацька,
Сьлёзы ў старога цяклі і дрыжэлі айцоўскія рукі.
Цмокнуў ён сына свайго, апошні раз цмокнуў і ў неба
Ўзьвіўся на крылах сваіх, у паветры паперадзе імчыцца.
Страшыцца ён за дзіця, як з гнязда паляцеўшы, і птушка
З кволым сваім птушанём лякаецца ў вышы. І просіць
Дэдаль сынка не астаць, небясьпечнай умеласьці вучыць,
Крылы варуша свае, пільнуе сыноўскія. Ў неба
Рыбу лавіў што вудой рыбалка, пастух, што апёрся
Кіем, араты з сахой, — кажны зь іх, зьдзіваваўшыся, ў неба
Пільна глядзеў, пазіраў на Дэдаля з сынам і бачыў
Іх за багоў, бо адны яны могуць лятаць у паветры.

### ПАВА

**(Верш фінскага песьняра Рунэбэрга)**

Блізка горнай рэчкі Сарыарві
Жыў сабе ды гаспадары Пава.
Меў ён жонку і дзяцей з асьміну,
Разам зь імі і гараў і сеяў,
А пасьля еў хлеб запрацаваны.
Толькі-ж раз вясной дажджы як люнуць,
Скрозь руччы, узяўся сьнег вадою —
І палову руні з поля змыла;
Ўлетку каласы пабіла градам,
Рэшту — ўвосень маразы згубілі.
Аж галосіць гаспадыня Пава:
«Прыйдзецца нам з торбай пацягацца,
Пад ваконьнем сораму набрацца,
Паміраці або жабраваці».
І тады прамовіў жонцы Пава:
«Памяшай муку з карой таўчонай;
Загару глыбей я нашу ніву —
Перабудзем так да ураджаю».
І яна муку з карой зьмяшала,
Загараў глыбей сваю ён ніву,
Насеньня купіў — прадаў авечкі.
Вось растануў сьнег вясной на полі,
Але руні болей не пашкодзіў.
Ўлетку бура з градам пранясласа,
Але не пабіла збожжа Павы.
Маразы ізноў былі пад восень,
Толькі-ж ніва Павы ўжо насьпела.
І сказала, жыта зжаўшы, жонка:
«Вось калі мы пажывём выгодна.
Годзе нам мяшаць муку з карою, —
Можна чыстага пад'есьці хлеба».
І тады прамовіў жонцы Пава:
«Зноў зьмяшай муку з карой таўчонай,
Бо памерзла ніва у суседа».

### САНЭТ

**(З А. Ф. Арвэра)**

Я тайну ў глыбіні душы хаваю,
Ў жыцьці мінутным — вечную любоў.
Няма у ёй надзей, няма і слоў.
Аб ёй ня чула тая, што кахаю;
Уваг яе к сабе я не зьвяртаю;

## Сакавіковая гадавіна ў Лювэне

Сьвяткаваньне 40-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Саюз Беларусаў у Бэльгіі й Згуртаваньне Беларуск х Студэнтаў у Лювене наладзілі ў нядзелю 23-га сакавіка ў Беларускім Студэнцк м Доме ў Лювэне.

Урачыстасьць распачалася Багаслужбай адпраўленай а. Аўгенам.

Пасьля Багаслужбы адбылася Акадэмія. Прысутныя заслухалі даклад прысьвечаны Сакавіку. Прычым даклад быў зроблены ў форме мантажу — ілюстраваны адмысловымі песьнямі й вершамі.

У канцы дакладу з гарачымі й падбадзёрваючымі словамі выступіў апякун беларускіх студэнтаў і вял кі прыяцель Беларусаў а. Робэрт Ван Каўвэлярт дэ Вільс.

Айцец Робэрт вельмі вобразна прадставіў прысутным неабходнасьць належнага адзначаньня Сакавіковых угодкаў усімі Беларусамі. Гэтыя штогадовыя ўрачыстасьці — гэта наша дэманстрацыя перад вольным сьветам, што мы не зракліся й не зрачомся правоў на незалежнасьць, дэманстрацыя няпрымірнасьці з акупантам.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

З нагоды гэтага вялікага нацыянальнага сьвята ад імя прысутных была выслана прывітальная тэлеграма сп. Прэзыдэнту БНР інж. Міколу Абрамчыку.

**Ж**

## Сьвяткаваньне Сакавіковай гадавіны ў Аўстраліі

### У СЫДНЭЮ

40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці нашае дзяржавы давялося нам адзначаць у невялікай сям'і беларускіх патрыётаў, але паважна і ўрачыста.

Адмысловы малебен за Беларускі народ адслужыў а. Зялінскі. Хорам праматацку кіраваў а. Кунцэвіч і ён-жа на просьбу настаяцеля зрабіў глыбока рэлігійную й патрыятычную прамову да прысутных. Пасьля быў прачытаны Маніфэст Рады БНР ды адсьпяваны нацыянальны гімн.

На другую частку сьвяткаваньня склалася таварыская бяседа ў доме сп. Гавенчыка. Распачалі яе адсьпяваньнем «Отчэ наш». Потым на зьмену йшлі сьпевы, успаміны, таварыскія гутаркі. За зарганізаваньне гэтай часткі належыцца падзяка спадарыням Лужынскай і Сіткоўскай.

**А. Лаўрыновіч**

### У АДЭЛЯЙДЗЕ

Дзень абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі сьвяткавалі мы сёлета 30 сакавіка.

Хоць праграма сьвяткаваньня была крыху й меншая, чымся ў мінулым годзе (ня рыхтаваліся народныя танцы), але цэласьць вышла нязвычайна ўдала, і, такім чынам, гэты вялікі дзень для беларускага народу быў годна адзначаны.

Сьвяткаваньне пачалося Багаслужбай, якую адслужыў прат. а. Міхаіл Шурко. Пасьля Багаслужбы быў адмысловы малебен за Беларускі Народ, дзе ў казаньні а. Міхаіл адзначыў сьвятасьць тых ідэалаў, за ажыцьцяўленьне якіх змагаецца наш народ.

Вечарам, пры перапоўненай залі — апрача Беларусаў было шмат гасьцей іншых нацыянальнасьцяў — пачалася Акадэмія, якую адкрыў уступным словам сп. П. Трысмакоў. Хор пад кіраўніцтвам М. Буралома адсьпяваў беларускі нацыянальны гімн.

Пасьля гімну сп. Левановіч прачытаў абшырны рэфэрат прысьвечаны 40-ым угодкам незалежнасьці Беларусі.

З нашым нацыянальным сьвятам віталі нас і прадстаўнікі ад гасьцей: сп. Закрэўскі ад УНРады, які ў сваёй прывітальнай прамове падчыркнуў супольнасьць інтарэсаў украінскага й беларускага народаў у змаганьні за незалежнасьць, і сп. Цюрак ад украінскай грамады ў Паўдзённай Аўстраліі, які адзначыў прыязныя ўкраінска-беларускія дачыненьні ня толькі ў сучасным, але і ў часы колішняга Вялікага Княства Літоўскага.

Мастацкую частку пачала сп-ня С. Буралом дэклямацыяй вершу «Ты мой брат...» Затым ішлі дэклямацыі брата й сястры Чарнагаловых, сп. П. Ханеўскага. Пад акампаньямэнт на акардыёне сп. Левановіча сп-ня С. Буралом прасьпявала народную жартаўлівую песьню «Сваток». Сп. сп. Зелянеўскі й В. Гігеліс выступілі з гумарыстычнымі апавяданьнямі, уводзячы прысутных у вясёлы настрой. Потым сп. Зелянеўскі й сп-ня С. Буралом паказалі абразок «Дзед і баба», а на заканчэньне была пастаўлена п'еса «Суд». Гэтую п'есу мы ставілі ўжо другі раз, і трэба прызнаць, што нашыя выканаўцы за гэты час зрабілі значны прагрэс ў сэньсе мастацкага майстэрства. У ролях выступалі: В. Зелянеўскі, М. Буралом, А. Садоўскі, сп-ня К. Ранцэвіч, П. Ханеўскі, Ул. Акавіты, В. Гігеліс і Ул. Калесьнікoвіч.

Аўстралійскім гімнам закончылася ўдалая пад кажным узглядам урачыстасьць.

Падчас урачыстасьці сп. сп. Гадыская, Садоўская, Кушнір і Шуба сабралі 45 фунтаў ахвяраў на пабудову царквы. Вялікае дзякуй як ахвярадаўцам так і сабіральнікам.

Арганізацыйны камітэт выносіць таксама падзяку ўсім тым, хто ў той ці іншы спосаб спрычыніўся да наладжаньня гэтага сьвяткаваньня, ды асабліва дзякуе сп-ні С. Буралом за аздобу сцены ў беларускім нацыянальным стылю за собскі кошт.

**П. Т.**

### У МЭЛЬБУРНЕ

У Мэльбурне частка беларускага актыву плянавала зарганізаваць «вялікае сьвяткаваньне». Але як заўсёды, знайшліся перашкоды як нутраныя так і вонкавыя, якія значна абмежавалі заплянаваную ўрачыстасьць. Тым ня менш выпала яна зусім добра.

Напярэдадні сьвяткаваньня мы атрымалі з Амэрыкі брашуры ў ангельскай мове «Дзень Незалежнасьці Беларусі» і разаслалі іх ад імя Каардынацыйнага Камітэту больш ведамым асабістасьцям Аўстраліі. Гэта зрабіла пэўную прапаганду нашай справы навонкі, аб чым сьветчаць прыхільныя адказы з пажаданьнямі для Беларусаў.

Сьвяткаваньне было наладжана ў нядзелю 30 сакавіка. Сабралася каля 100 асобаў. Трэба шкадаваць і крыху саромецца, што ня было між імі шмат ведамых беларускіх сем'яў.

Урачысты малебен за Беларускі Народ адслужыў а. архімандрыт Мадэст, які ў сваім казаньні зьвярнуў увагу на непераможны дух беларускага народу, які давядзе да зьдзейсьненьня ідэялаў Акту 25 Сакавіка.

Пасьля ўрачыстага адкрыцьця Акадэміі сп. У. Сідлярэвічам і пакліканьня ў прэзыдыюм а. а. Мадэста й Фёдара ды прадстаўнікоў паасобных арганізацыяў, сп. Мікуліч прачытаў ня доўгі, але добра апрацаваны рэфэрат.

У далейшым прадстаўнікі ўкраінскіх і казацкіх арганізацыяў горача віталі Беларусаў з нацыянальным сьвятам і запаўнялі поўную падтрымку у супольным змаганьні з агульным ворагам — маскоўскім акупантам.

Пасьля прывітаньняў гасьцей, віталі прысутных ад імя мясцовых арганізацыяў сябры прэзыдыюму; сп. Шнэк прачытаў шмат прысланых прывітаньняў для Аб'яднаньня, а сп. Скабей прачытаў Маніфэст Рады БНР, а таксама прысланыя прывітаньні для Згуртаваньня.

Інсцэнізацыя «Маці й сын» Я. Купалы, у выкананьні вучняў беларускае школы ў Мэльбурне ажывіла змучаных доўгімі прывітаньнямі прысутных.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

**М. Н.**

### НА УРАЧЫСТАЙ АКАДЭМІІ Ў АШАВЕ (КАНАДА)

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

П., сакратар аддзелу, прачытаў даволі абшырны й цікавы даклад на тэму дня. Пасьля дакладу віталі ўсіх прысутных зь вялікім сьвятам старшыня Галоўнай управы ЗБК сп. Маркевіч — па даручэньні Галоўнай управы ЗБК, а таксама сп. Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка, і а. Міхаіл Мацукевіч, якія, разам зь іншымі сябрамі, прыбылі з Таронта.

Афіцыяльная частка закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну, пасьля чаго зрабілі перапынак, каб даць магчымасьць падрыхтаваць сталы да супольнае вячэры.

Супольная вячэра пачалася малебнам а. Міхаіла. Падчас вячэры прысутныя ў сьвяточным настроі супольна сьпявалі беларускія патрыятычныя песьні, а таксама былі й салёвыя ды дуэтныя выступы, як прыкладам, сп. сп. Марылі Л., А. Харэвіч, Рачыцкага. Сп. Рачыцкі (сакратар Галоўнай управы ЗБК) прывітаў пры нагодзе трох новаўступіўшых сяброваk аддзелу.

Хочацца адцеміць, што апошняя ўрачыстасьць была адной з найпрыгажэйшых, якія дасюль рабіліся ў Ашаве.

Позна ўвечары ўсе разыходзіліся з моцнай верай у перамогу сьветлых ідэалаў 25 Сакавіка.

**Таронтавец**

# Аднаасабовая дыктатура Хрушчова

Напасьледак сталася, чаго бальшыня на Захадзе спадзявалася: канец калектыўнага кіраўніцтва й устанаўленьне аднаасабовай дыктатуры Хрушчова ў Савецкім Саюзе. Адно толькі Захад не чакаў, што гэта наступіць так хутка і ў такой абсалютнай форме. Пераважала перакананьне, што Хрушчоў усё-ж «вычысьціць» Булганіна із становішча шэфа савецкага ўраду, які, падчас розыгрышу з «антыпартыйнай групай» Молатава, Маленкава й Кагановіча, спачатку хістаўся й не паддзержываў Хрушчова. Але мала хто думаў, што становішча прэм'ера пяройме сам Хрушчоў і сканцэнтруе беспасярэдна ў сваіх руках партыйнае й дзяржаўнае кіраўніцтва. Наагул уважалася, што становішча прэм'ера абойме хтосьці із адданых Хрушчову людзей, а ня ён сам, і такім кандыдатам многія прадбачвалі Ўкраінца Кірычэнку.

Тымчасам апошняя сэсія Вярхоўнага Савету, якая паклікала Хрушчова на становішча прэм'ера, вымоўна паказала, што Хрушчоў пасьлядоўна ішоў да аднаасабовай дыктатуры і што, на ягоную думку, усе патрэбныя дзеля гэтага мерапрыемствы былі ўжо поўнасьцю праведзеныя.

Аднаасабовая дыктатура савецкага тыпу патрабуе чатырох галоўных атрыбутаў улады, сканцэнтраваных у руках аднаго дыктатара. Гэтымі атрыбутамі ёсьць: 1. **улада партыйная**, якая належыць да Хрушчова, як першага сакратара ЦК КПСС; 2. **улада дзяржаўная**, якую цяпер Хрушчоў здабыў, стаўшы прэм'ерам савецкага ўраду; 3. **палітычная паліцыя** й наагул ворганы бясьпечнасьці, якімі сяньня Хрушчоў можа распараджацца за пасярэдніцтвам свайго стаўленіка генэрала Серава і ў сілу свайго становішча прэм'ера, бо ворганы бясьпечнасьці зьяўляюцца падпарадкаваныя ўраду; 4. **армія**, над якой Хрушчоў, пасьля ўпадку Жукава й назначэньня паслухмянага сабе маршала Маліноўскага за міністра абароны, мае таксама кантролю й пасярэднюю ўладу.

Такім чынам Хрушчоў, сканцэнтроўваючы ў сваіх руках уладу над найважнейшымі галінамі дзяржаўнага жыцьця й адсоўваючы ад уплываў і кіраўніцтва сваіх найсільнейшых канкурэнтаў, сьмела й пасьлядоўна ішоў да аднаасабовай дыктатуры. Гэтак пры Сталіне «апошні спасярод роўных» стаўся першым і перабраў сталінскую спадчыну.

Справа пераходу ад калектыўнага кіраўніцтва да аднаасабовай дыктатуры ў Крэмлі родзіць розныя здагадкі й прадбачваньні ў цэлым сьвеце. І гэта зусім зразумела, бо апошнія крэмлёўскія зьмены могуць мець вялікі ўплыў як на нутраную, гэтак і на замежную палітыку Савецкага Саюзу. На парадку дня стаіць сяньня кардынальнае пытаньне: ці Хрушчоў, здабыўшы **фармальна** такую ўладу, якую меў Сталін, зможа і захоча **фактычна** сталінскімі мэтадамі кіраваць дзяржавай, ці будзе змушаны і надалей весьці больш лібэральную палітыку? Пытаньне гэтае ёсьць нязвычайна важным у роўнай меры для вольнага сьвету, як і для народаў Савецкага Саюзу, а так-жа й сатэлітных краінаў.

Многія заходнія абсэрватары ўважаюць, што дыктатура Хрушчова ня будзе такой жорсткай, безаглядной і крывавай, як дыктатура Сталіна. Гэтыя свае прагнозы яны выводзяць, папершае, з больш мяккага й паваротлівага характару самога Хрушчова і, падругое, — і гэта найважнейшае — зь цяперашняй нутранай сытуацыі Савецкага Саюзу. Справа ў тым, што Сталін прыйшоў да ўлады па трупах сваіх запраўдных і ўяўных праціўнікаў, Хрушчоў стаўся аднаасабовым дыктатарам у ўмовах злагоджанага ім-жа самым палітычнага курсу. Палітычныя праціўнікі Хрушчова, ня так даўно ім адсунутыя ад дзяржаўнага кіраўніцтва, як Маленкаў, Молатаў, Кагановіч, напасьледак Жукаў, а цяпер і Булганін, жывуць на свабодзе й бясспрэчна маюць ня мала сваіх прыхільнікаў. Асабліва датычыць гэта Жукава, папулярнасьць якога ў народзе, асабліва ў арміі ўсё-ж бяссумлеўная.

Прыхільнікі гэтай канцэпцыі бяруць на ўвагу яшчэ й той факт, што ў Савецкім Саюзе пасьля сьмерці Сталіна й асуджэньня культу ягонае асобы, да чаго ня мала прычыніўся й сам Хрушчоў, адбыліся глыбокія нутраныя зьмены ў кірунку лібэралізацыі курсу й талераваньня дамаганьняў большае свабоды, зьмены, якія паварот сталінскіх мэтадаў робяць проста немагчымым.

Мы, аднак, трымаемся цьвёрда пагляду зусім іншага. Уступкі, зробленыя насельніцтву пасьля сьмерці Сталіна, мелі, на нашую думку, дзьве галоўныя прычыны. Папершае, сам факт сьмерці адзінаўладнага дыктатара й змаганьне за ягоную спадчыну мусіў у значнай меры аслабіць нутраную дысцыпліну й выклікаць зразумелыя ў такіх выпадках фэрмэнты сярод насельніцтва. Падругое, само калектыўнае кіраўніцтва, каб замацаваць свае захістаныя пазыцыі, было змушанае зрабіць некаторыя ўступкі насельніцтву й выклікаць сярод яго перакананьне, што цяпер будзе значна лепей. Такім чынам хрушчоўская лібэралізацыя курсу была задуманая як часовае й каньюнктуральнае, а ня прынцыповае мерапрыемства.

Сяньня Хрушчоў стаўся аднаасабовым дыктатарам. А кажная дыктатура такога тыпу, як у Саветах, бяз крыві абыйсьціся ня можа. А асаблівасьцю ўсякае дыктатуры наагул ёсьць ейны дынамізм і вышукваньне што раз новых «вялікіх заданьняў», да дасягненьня якіх дыктатура змушаная імкнуцца. Сыстэма дыктатуры ня можа затрымацца на адным месцы, а дыктатар ня можа сказаць, што вось ажыцьцёўлены ўжо ўсе асноўныя мэты й можна цяпер жыць свабодна. У такім выпадку дыктатура перастала-б быць дыктатурай. Вось чаму апошнія зьмены ў Крэмлі нічога добрага варажыць ня могуць.

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

---

Я ўсьцяж адзін, хаця-б і зь ёй ішоў;
І я нічога да канца гадоў,
Ня сьмеючы прасіць, не атрымаю.
І хоць ласкавасьці надаў Бог ёй,
Яна праступе пуціной сваёй
І шэпт мае любові ня ўчувае.
Калі-ж душою стродкая, спаткне
Ёй поўны гэты верш — яна шапне:
«Хто-ж гэтая жанка?» — і не ўгадае.

### МЛОСНАСЬЦЬ
### (З П. Вэрлена)

Я — падупалы Рым, каторы пазірае
На белых барбараў, на бушаваньні іх,
І стылем залатым лянотна акраствх,
У блеску сонечным ,стаміўшыся, складае.

Ў самотным сэрцы — зло, ў душы — нуда густая.
І бітвы чуючы, каторых шум ня сьціх,
Ня можа, кволы, ён дайсьці жаданьня сваіх,
Ня хоча рушыцца, жыцьця не аздабляе!

Ня можа, кволы, ён, ня хоча нат сканаць!
Ўсё зьведана! Батыль, ты скончыш сьмех? Даволі!
Ўсё зьведана! Няма чаго прамовіць болей!

Адно ёсьць, — вершыкі, што ўжо ў вагні гараць,
Адно ёсьць, — п'яны раб, што вас не паважае,
Адно ёсьць, — пусткі сум, што сэрца уражае.

### НАСЬЛЕДВАНЬНІ ПЕСЬНЯЎ НЕКАТОРЫХ НАРОДАЎ
### 1915

### СЬМЕРЦЬ ШЭРШНЯ

Хто там едзе па Касовым полі?
Едзе ў полі дэлібаш адважны —
Слаўны шэршань на жуку рагатым.
Дзень ён едзе і другі, і трэйці,
На чацьверты к мору пад'яжджае,
Што калюжай у людзей завецца.
Затрымаўся, глянуў слаўны шэршань
І такія словы прамаўляе:
«Гой ты, коню, гой ты, жук рагаты!
Ускарміў я, цябе расою.
Адслужы-ж ты верную мне службу —
Перaскоч ты цераз гэта мора».
І прамовіў шэршню жук рагаты:
«Гаспадару, дэлібаш адважны!
Не скакаць-бы мне з табою праз мора,
Ня шукаць-бы сьмерці перадчаснай.
Як мы з хаты ранкам выяжджалі,
Гаварыла маці-шаршаніха,
Што нядобры сон ёй ночы сьніўся,
Быццам пэрлы ўсё яна нізала.
Ня інакай — будуць ліцца сьлёзы».
Засьмяяўся шэршань, гэтак кажа:
— «Стаў ты, коню, бабай шумадыйскай!
Я з маленства сьмерці не лякаўся,
Не збаюся і цяпер напэўна».
І паслухаў шэршня жук рагаты.
Разагнаўся, напружыўся моцна,
Скакануў ён — і сягнуў праз мора.
На высокі яр якраз патрапіў!
І зырваўся знізу нагамі
Жук рагаты зь яру — аж у мора,
Спад капытаў паляцела гліна:
Ды скакнуў ён — і адратаваўся.
Вось які быў гэты слаўны шэршань,
Ды і конь той — чорны жук рагаты!
Але шэршню ўсё яшчэ замала.
— «Гой ты, коню, — кажа, — верны коню!
Мы скакнулі перадам праз мора,
Дык скакнем-жа празь яго і задам».
І паслухаў шэршня жук рагаты:
Разагнаўся, напружыўся моцна,
Скакануў ён — ды у час нядобры!
Грымнуў з вышы, небарака, ў мора,
Ў сіне мора разам з гаспадарам.
Так прадчасна сьмерць сваю натрапіў
Слаўны шэршань, дэлібаш адважны.
Не, нямашка ўжо такіх юнакаў.

### РАСЕЙСКАЯ

Сяньня дзень у нас сьветлы, радасны —
Ўваскрасеньнейка самаго Хрыста.
Я, дзяўчыначка, ў карагод пайшла
Ды з усімі там павіталася.
Ах, з усімі там павіталася,
Я з усімі цалавалася,
Толькі зь мілым пастыдалася.
А ня мала раньш у нас было
Разам ночак праседжана,
Слоў салодкіх перамоўлена,
Ў вусны горача цало...
Ды эх, цалована.

### УКРАІНСКАЯ

* * *

У каго ты, дзяўчынанька, тварам удалася?
Ці то ў бацьку, ці то ў матку, ці ў суседа Яся?

* * *

Стаў хлапчына ля дзяўчыны, каламыйку грае,
На дзяўчыніны істужкі нешта пазірае.
Ды ня так ён на істужкі, як на тыя вочы,
Як на тыя, браце, вочы, што цямней за ночы.

* * *

Слаўна Галя Васілёва, слаўна ды прыгожа:
Вочкі ясны, сама красна, як поўная рожа...

# Недарэчная і шкодная канцэпцыя

Мы часта на бачынах нашай газэты прыводзім яскравыя прыклады выказваньняў паасобных заходніх палітычных дзеячоў ці ведамых журналістых, якія, хоць часам і пазнавата, ўсё-ж нарэшце зразумелі й правільна ацэньваюць імпэрыялістычныя імкненьні Масквы, ейную стратэгію ў наступе на вольны сьвет, ды, здаючы сабе справу з усяе небясьпекі, якая навісла над гэтым сьветам, стараюцца шукаць і знаходзяць належныя мэтады супрацьдзеяньня.

Аднак мы лічым сваім абавязкам інфармаваць нашых чытачоў і аб тых далакопах, якія загадзя падрыхтоўваюць магілу вольнаму сьвету. А такіх — хоць гаць гаці.

У Лёндане нядаўна выйшла кніжка «Абарона ў атамны век» („Defence in the Nuclear Age"). Аўтар яе — Сэр Стэфан Кінг-Гол — былы ахвіцэр адміральскага штабу й міністар абароны па лініі прадукцыі самалётаў у вапошняй вайне.

Што-ж гэта за «абарона», якую прапануе аўтар? Перш-на-перш ён прапануе заходня-эўрапэйскім дзяржавам стварыць эўрапэйскую арганізацыю дзяржаваў на дагаворных прынцыпах. Гэты новы твор павінен абсалютна адмовіцца ад усялякіх відаў атомнае зброі ды вымавіць амэрыканскім збройным сілам права на прабываньне на эўрапэйскай тэрыторыі. Собскія-ж збройныя сілы эўрапэйскай арганізацыі павінны абмежавацца да ўтрымоўваньня нутранога парадку, а ў выпадку збройнай агрэсіі — да пасыўнага супраціву (!).

Трэба сказаць, што аўтар вельмі лягічна й пасьлядоўна прадугледжвае вынікі ў выпадку такое «палітыкі»». Ён піша аб гэтым наступнае:

«Найпаважнейшым рызыкам прапанаванай мной палітыкі бяз ужыцьця сілы можа быць расейская акупацыя тэрыторыі эўрапэйскай арганізацыі. Я магу сабе ўявіць, што Савецкі Саюз скажа наступнае: «ЗША пастанавілі трымаць надалей атомную зброю. Яны, праўда, эвакуавалі свае базы ў Ангельшчыне й на кантынэньце, але яны іх маюць яшчэ (магчыма) у Ірляндыі, Паўночнай Афрыцы й Арабіі. Нам, каб бараніцца ад амэрыканскай агрэсіі, неабходна мець свае базы ў Ангельшчыне й Заходняй Эўропе. Дзеля таго мы патрабуем, каб такія базы былі дадзеныя Савецкаму Саюзу на правох арэнды». Гэта была-б проба, і, бязумоўна, мы павінны-б былі з абурэньнем адказаць адмоўна. Звычайная інвазія, як рэакцыя Крамля, сустрэла-б, згодна прынцыпаў эўрапэйскай арганізацыі, толькі сымбалічны супраціў, і тады-б мы былі акупаванымі».

Запрапанаваўшы сваю «палітыку» й зрабіўшы лягічны вывад, да чаго-б яна прывяла, аўтар далей дае прапановы, як змагацца із савецкім акупантам. І тут мімаволі напрошваецца пытаньне: пашто-ж із імі тады змагацца, калі перад гэтым дабраахвотна адмаўляцца ад абароны ды навет правакаваць гэтым самым савецкую інвазію? Гэтага ўжо пад ніякую лёгіку падвесьці нельга.

Але прыгледзімся бліжэй да аўтаравых «тэзаў» у дачыненьні «змаганьня» супраць савецкага акупанта ў Заходняй Эўропе. Яны зьведзены аўтарам да пяці наступных пунктаў:

1. Эканамічнае жыцьцё краіны павінна йсьці далей.

2. Што да сыстэмы кіраўніцтва, дык нашая пастава перад ворагам павінна быць наступнай: Мы маем сваю сыстэму кіраваньня, якая добра функцыянуе, а калі яна вам не падабаецца, мы хацелі-б ад вас ведаць, якую альтэрнатыву маеце вы на думцы».

3. За ўсялякую цану трэба адмаўляцца гаварыць ці пісаць што-небудзь, што супярэчыла-б прынцыпам нашага спосабу жыцьця. Нельга таксама ніколі зрэзыгнаваць із свабоды слова й сходаў.

4. Далей трэба выкарыстоўваць кожную нагоду асабістага кантакту з акупантам, каб выясьніць яму памылкі камунізму й перавагі дэмакратыі.

5. У вагульным перад акупантам трэба захоўвацца дастойна й з вышэйшасьцяй. Гэта наагул асноўнае правіла.

Тыя, што пажылі пад савецкай акупацыяй, прачытаўшы ўсё гэта, расьсьмяюцца.

Ясна, у **тэорыі** можна дапусьціць мэтазгоднасьць і гэтых правілаў, тым больш, калі краіна ня мае намеру бараніцца збройна, а іншага выхаду няма. Але ў **практыцы** разьлічваць на эфэктоўнасьць такога «змаганьня» — гэта абсурд.

Эканамічнае жыцьцё, бязумоўна, мусіла-б працягвацца далей, бо як-жа магло-б быць інакш. Але якую рэвалюцыю, які закалот яно перажыло-б, у якім кірунку пайшло-б далей? Што-ж да сыстэмы кіраўніцтва — дык бальшавікі лёгка знайшлі-б «альтэрнатыву» й «пераканалі-б» Ангельцаў, што бальшавіцкая сыстэма кіраўніцтва найбольш дасканалая. Мыляецца таксама аўтар, калі думае, што ў Ангельшчыне Расейцы не знайшлі-б такіх, якія пайшлі на супрацоўніцтва з акупантам; калі-б іх не знайшлося ў першыя часы (што цяжка дапусьціць), дык акупант ведамымі ўжо мэтадамі пастараўся-б у «тэрміновым парадку» «выпрадукаваць» для сваіх мэтаў дастатковую колькасьць калябарантаў. А гэтыя апошнія і сказалі-б і напісалі-б супраць «ангельскага спосабу жыцьця» такое, што аўтару й ня сьнілася-б.

Свабода слова? сходаў? Абсурд. Што значыць — «нельга зрэзыгнаваць»? Хто-б у Ангельцаў дамагаўся гэтае «рэзыгнацыі»? Цераз некалькі месяцаў, у найлепшым выпадку — некалькі гадоў, **самі** пакорна змоўклі-б. Не памагла-б тут ні вышэйшасьць, ні дастойнасьць.

І найбольшая недарэчнасьць — пераконваць у такіх умовах акупантаў аб вышэйшасьці й перавазе дэмакратыі над камунізмам! Апошнія эўрапэйскія краіны сталіся камуністычнымі — а тут раптам гаварыць аб перавазе дэмакратыі! Камуністычная лёгіка ў гэтым дачыненьні вельмі-ж простая: хто перамагае — таго й праўда. Ці-ж аўтар забыўся на нядаўны трыюмф «сацыялістычнага ладу» — «спутнікі»? Як толькі першага зь іх ўдалося запусьціць, бальшавіцкая прапаганда адразу-ж загудзела, што гэта яшчэ адзін доказ вышэйшасьці й правільнасьці камуністычнае сыстэмы. А ці-ж скамунізаваньне рэшты Эўропы ня было-б для іх таксама лішнім «доказам» гэтае вышэйшасьці?

Аўтар гэтае трагі-камічнае «абароны» піша таксама , як канкрэтна ў практыцы выглядаў-бы ангельскі супраціў. Як прыклад ён бярэ Брытанскую радыёвую карпарацыю (Бі-Бі-Сі) і даслоўна піша:

«Я . . . дапушчаю, што Саветы для Бі-Бі-Сі вызначылі-б цэнзара. Я лічыў-бы тады абавязкам працаўнікоў Бі-Бі-Сі браць удзел пры перадаваньні праўдзівых вестак, паведамленьняў, праграмаў-гутарак, музыкі й г. д., але затое ўстрымоўвацца браць удзел у перадаваньні праграмаў, якія садзейнічаюць умацаваньню камунізму. Найвышэйшы ангельскі ўрадавец, які-б быў пакінуты на сваім становішчы, павінен лічыць сваім абавязкам вясьці псыхалягічную вайну супраць расейскага цэнзара ды быць гатовым лепш дазволіць сябе зьліквідаваць чымся адступіць ад сваіх прынцыпаў, пры поўнай сьведамасьці што ягоныя наступнікі і ўніз аж да наймалодшага працаўніка Бі-Бі-Сі будуць змаганьне працягваць. Камэнтатар і сьпікэр мусілі-б прадаўжаць сваю працу, аднак выкарыстоўваць кожную нагоду, каб асьмейваньнем, нацёка-

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

# Аднаасабовая дыктатура Хрушчова

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

На нашую думку, зусім лягічную спробу прагнозы далейшых падзеяў у Савецкім Саюзе зрабіў навуковы супрацоўнік Інстытуту для Вывучэньня СССР Г. Ахмінаў, які ў № 48 (за 1. 4. 58) выдаванага гэтым-жа Інстытутам «Аналізу апошніх падзеяў» пісаў:

«. . . Хрушчоў фактычна мае толькі два сяродкі для стабілізацыі сваей улады. Адзін сяродак заключаецца ў тым, каб пры помачы болей або меней шырокай чысткі фізычна зьнішчыць канкурэнтаў, што асталіся ў жыцьці, і штучна ствараць магчымасьць высоўваньня сваіх прыхільнікаў.

Другі сяродак заключаецца ў тым, каб ужыць той мэтад, які ўжывалі ўсе дынамічныя дыктатуры, што зайшлі ў нутрана-палітычны сьляпы завулак, а паймена — шукаць выхаду ў вонкава-палітычнай экспансіі. Мы ня ведаем, які з гэтых двух шляхоў выбярэ Хрушчоў. Або ён спачатку займецца стабілізацыяй нутрана-палітычнага палажэньня й адсуне праграму вонкава-палітычнай экспансіі на больш позны мамэнт, або ён адразу сканцэнтруе ўсю ўвагу на праблемах вонкавай палітыкі. Але мы змушаныя сканстатаваць, што рад фактаў паказвае на намеры партыйнага кіраўніцтва сканцэнтраваць увагу на праблемах вонкавай палітыкі. Аб гэтым сьветчыць той факт, што Хрушчоў узяў усю ўладу ў свае рукі ў той час, калі ў галіне вонкавай палітыкі чакаюцца важныя пастановы. У сувязі з гэтым напомнім, што Сталін злучыў функцыі шэфа партыі і ўраду ў траўні 1941 году, г. зн. у мамэнт максімальнага напружаньня ў міжнародных дачыненьнях. Тактыка камбінаванай апрацоўкі Захаду пры помачы прапановаў дзеля адпружаньня міжнароднай сытуацыі і адкрытых пагрозаў зьмешчае ў сабе магчымасьць вельмі небясьпечнага павароту падзеяў. Ня выключаная магчымасьць, што сучаснае «мірнае наступленьне» вядзецца Саветамі дзеля таго. каб падгатаваць палітычную атмасфэру для крутога павароту да беспасярэдняй агрэсіі».

Апошнія палітычныя ходы Хрушчова ў значнай меры пацьвярджаюць вышэй прыведзеныя меркаваньні.

Яшчэ няведама, што канкрэтна выкіне Хрушчоў у галіне нутранай палітыкі Савецкага Саюзу. Затое ў замежнай палітыцы ўжо цяпер зрабіў ён некаторыя ходы, якія абазначаюць узмоцнены дыпляматычны й прапагандовы наступ супраць Захаду.

Апошняя сэсія Вярхоўнага Савету прыняла пастанову аб спыненьні Савецкім Саюзам пробных выбухаў атамнай і вадароднай бомбы, а цяпер Хрушчоў і ўся савецкая прапаганда заклікаюць заходнія вялікадзяржавы зрабіць тое самае. Увесь цынізм гэтай савецкай пастановы палягае на тым, што Саветы якраз нядаўна выканалі вялікую сэрыю пробных узрываў гэтых бомбаў і могуць цяпер на даўжэйшы час іх спыніць, нічога ня трацячы на эфэктоўнасьці сваіх збраеньняў. Затое Амэрыка свае такія-ж экспэрымэнтальныя ўзрывы заплянавала на канец бягучае вясны і калі-б цяпер, пайшоўшы за прыкладам Саветаў, адклікала іх, дык тым самым асталася-б далёка з-заду ад Саветаў у галіне гэтага аружжа. Гэтая савецкая пастанова й выплываючыя зь яе прапановы ў дачыненьні да заходніх вялікадзяржаваў зьяўляюцца нясур'ёзнымі яшчэ й таму. што, як заявілі амэрыканскія экспэрты. можна лёгка рабіць сакрэтным спосабам экспэрымэнтальныя дасьледаваньні з атамным і вадародным аружжам.

Такім чынам савецкая пастанова аб спыненьні пробных узрываў мае вылучна прапагандовыя мэты, накіраваныя на падмінаваньне аўтарытэту заходніх дзяржаваў у вачох розных праціўнікаў атамнага й вадароднага аружжа. Гэта тым болей, што Саветы, як сказана ў пастанове, у кажны мамэнт могуць узнавіць дасьветчаньні з атамнымі й вадароднымі бомбамі, калі заходнія дзяржавы будуць гэтыя дасьветчаньні прадаўжаць. Ня гледзячы на ўвесь навет няўдала завуаляваны цынізм савецкае пастановы, ейны прапагандовы эфэкт для рознае масьці пацыфістых на Захадзе будзе бясспрэчны.

Другім палітычным ходам, зробленым Хрушчовам адразу-ж пасьля намінацыі яго прэм'ерам, была ягоная васьмідзённая паездка ў Вугоршчыну. Спасярод сатэлітных краінаў Хрушчоў у новай сваей ролі прэм'ера першую адведаў Вугоршчыну, якая зьяўляецца галоўным вогнішчам антысавецкага руху. Гэтым ён хацеў паказаць, што ўсякі бунт тут ужо скончаны, а кідаючы пагрозы пад адрасам эвэнтуальнай новай рэвалюцыі, даў да зразуменьня, што Масква ня сьцерпіць ніякай формы непаслухмянства ў сатэлітных краінах. З другога боку, ягоная візыта ў Будапэшце была вымоўным адказам на дамаганьне прэзыдэнта Айзэнгаўэра, каб на плянаванай канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні разглядалася пытаньне свабоды для краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы.

Такім чынам многія важныя сымптомы паказваюць, што савецкая замежная палітыка пры аднаасабовай дыктатуры Хрушчова ўваходзіць у новую фазу ўзмоцненага дынамізму.

**Язэп Каранеўскі**

# Байкот сацрэалізму

Ня гледзячы на традыцыйную і нявылечную нуду савецкае прэсы, сустракаюцца аднак вельмі павучальныя паасобнікі газэтаў, якія вартыя таго, каб іх чытаць і навет перачытваць. Прыкладам, такім паасобнікам зьяўляецца газэта «Літаратура і Мастацтва» з 22 сакавіка гэтага году.

Першым чынам — перадавы артыкул пад гучным загалоўкам «Жыць інтарэсамі народу». Напісаны ён з нагоды надыходзячага IV-га Зьезду Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Калі ня чытаць нічога, акрамя загалоўка, дык з артыкулу застаецца вельмі добрае ўражаньне. Бо й запраўды — ці не шляхотнае гэта заданьне для пісьменьніка — жыць інтарэсамі народу, дзяліць разам зь ім — адлюстроўваць у сваіх творах — ягонае гора й радасьць, ягоныя думкі й імкненьні? Але, нажаль, да гэтага заклікаюць пісьменьнікаў аўтары артыкулу толькі ў загалоўку. У артыкуле-ж яны вымагаюць ад іх якраз адваротнага — служыць толькі партыі, безаглядна выконваць ейныя дырэктывы. Для савецкіх пісьменьнікаў, — гаворыцца ў артыкуле, — «няма больш высокіх інтарэсаў, чым інтарэсы партыі й народу . .» Як бачым, інтарэсы народу выйшлі ўжо на другі плян у трэйцім абзацы артыкулу .У рэчаіснасьці-ж яшчэ горш: яны наагул на апошнім пляне. Тут-жа на месцы тым зь пісьменьнікаў, якія адважыліся былі хоць у поўнай меры праўдзіва адлюстраваць у сваіх творах жыцьцё свайго народу, выказаць ягоныя думкі. прыпісваюцца «нігілістычныя і рэвізіянісцкія настроі». Варта прыгадаць, што гісторыя паўтараецца: у XIX стагодзьдзі царскія чыноўнікі залічалі да нігілістых усіх рэвалюцыянэраў, што змагаліся супраць царскага самаўладзтва й самаволі. Нігілістым звалі пагардліва й нашага Ігната Грынявецкага, які загінуў у гэтым змаганьні. Вярнуўшыся да гэтага тэрміну, бальшавікі яго пашырылі: цяпер нігілісты ці рэвізіяністы кажны, хто асьмельваецца выказаць сваю думку.

Але вернемся да артыкулу «Жыць інтарэсамі народу». Як і належыцца перад зьездам пісьменьнікаў, у ім падсумоўваюцца вынікі працы пісьменьнікаў Беларусі. Чытаем: « . . . Апошні год быў для нашай беларускай літаратуры вельмі ўраджайным». Тут падаюцца назовы пяці кніжак, якія выйшлі ў Дзяржаўным Выдавецтве БССР, ды прозьвішчы пісьменьнікаў, што друкавалі свае творы ў часапісах

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

* * *

А чаго-ж там на вуліцы так сабакі брэшуць?
Йдзе Мікіта, а падкоўкі ажно іскры крэшуць . . .

### СКАНДЫНАЎСКАЯ

Была Інгеборг, як сасонка, страйна,
— Так вецер суворы пяе —
І горкую долю спаткала яна.
— Шкада нам, шкада нам яе.

Ня слухала маткі, ня чула айца,
— Так вецер суворы пяе —
Кахала Аскара, марскога байца,
— Шкада нам, шкада нам яе.

Ў чужую паехаў Аскар старану,
— Так вецер суворы пяе —
Надоўга дзяўчыну пакінуў адну.
— Шкада нам, шкада нам яе.

Шмат дзён пранясло́ся. шмат доўгіх начэй,
— Так вецер суворы пяе —
Шмат сьлёз пралілося зь дзявоцкіх вачэй,
— Шкада нам, шкада нам яе.

І весткі за год да Аскара дайшлі:
— Так вецер суворы пяе —
Сьпіць моцна твая Інгеборг у зямлі.
— Шкада нам, шкада нам яе.

І цяжка Аскару зрабілася жыць,
— Так вецер суворы пяе —
Ён кінуўся ў бой, каб дзяўчыну забыць.
— Шкада нам, шкада нам яе.

І вось напаткаў ён сьмяротны удар,
— Так вецер суворы пяе —
І ўмёр праз дзяўчыну адважны Аскар.
— Шкада нам, шкада нам яе.

І млее па ім Інгеборг без канца,
— Так вецер суворы пяе —
Няма ўсё Аскара. марскога байца.
— Шкада нам, шкада нам яе.

Над морам навісла скала, як сьцяна,
— Так вецер суворы пяе —
Штадня Інгеборг там чакае адна.
— Шкада нам, шкада нам яе.

І бачыць нарэшце: з далёкіх зямель
— Так вецер суворы пяе —
Ўвесь чорны Аскараў плыве карабель . . .
— Шкада нам, шкада нам яе.

І рынула, скрыкнуўшы, ў мора яна
— Так вецер суворы пяе —
І ўжо не паднялася зь цёмнага дна.
— Шкада нам, шкада нам яе.

### ГІШПАНСКАЯ

Яснавокая Аніта
Разгарнула веер чорны
І схавала стродка тварык
У мярэжавых вузорах.

У вайцоў базыліянаў
Ночы я сядзеў бяссонны,
Ўсё вучыўся зоралікў.
Вось яно, прыцьменьне сонца!

* * *

Донна Кляра твар закрыла
Чорным веерам сувора,
І сказаў адзін гідальго:
«Цяжка ў час прыцьменьня сонца».

* * *

«Найясьнейшая сіньёра,
Правялебнейшая донна,
Донна Кляра, донна Кляра,
Загубілі вы мяне!
Ах, бяз вас і дзень, як поўнач,
З вамі — поўнач, быццам дзень.
Донна, донна! Узялі вы
Ад маіх сьлядоў зямлі
І зрабілі нагаворы
З чарадзейных чорных кніг». —

«Паважаны кабальеро,
Дон Фэрнандо, дон Фэрнандо,
Я усе свае гады
Жыла добрай хрысьціянкай
І ня ўмею варажыць.

У мяне другія чары:
Косы чуць не да кален
Вочы, быццам тыя зоры,
Твар бялейшы, чымся сьнег».

### ЯПОНСКАЯ

Ах, як сьпявае
Сінявокая птушка
Ў муках каханьня.
Сьціхні, птушачка, сьціхні,
Каб не тамілася я.

* * *

Мілая, згадай:
Веяла цёплай вясной,
І вішні цьвілі.

(Працяг з папярэдняга нумару)

# Першы Усебеларускі Кангрэс

## 18-31 (5-18 ст. ст.) сьнежня 1917 г.

*Успаміны Дэлегата Кангрэсу*

Пленарнае паседжаньне пачалося 17. 12. (ст. ст.) надвечар. На гэтым паседжаньні меліся абгаварыць і прыняць найважнейшыя пытаньні аб будучыні Беларусі. Сьцярша выступалі некаторыя дэлегаты як-бы з уступнымі прамовамі й падчырквалі важнасьць надыходзячага гістарычнага паседжаньня. Аж неўспадзеўкі падыйшоў да прэзыдыюму нейкі высокі чарнамазы з лахматымі нячэсанымі валасамі ў простым салдацкім шынэлі чалавек і папрасіў слова дзеля прывітаньня Кангрэсу. Ён сябе назваў камендантам места Менску, але дакумантаў не паказаў. Прэзыдыюм стаў адмаўляць у ягонай просьбе. Адзін дэлегат Кангрэсу з групы абласьнікоў жыдок, які ўжо ў 1917 годзе быў узьведзены ў прапаршчыкі, сказаў, што знае гэтага чалавека, што гэта камендант места Менску — Крывашэін. Прэзыдыюм даў яму слова для прывітаньня. Крывашэін узыйшоў на трыбуну і гаварыў доўга, але бяссэнсоўна — бяз сувязі слоў у сказах, паўтараючыся й заікаючыся. Я як не стараўся злавіць сэнс ягонае прамовы, але змог толькі зразумець, што яму няма часу ні спаць, ні есьці, што ў яго вельмі шмат працы, што ўжо трое сутак, як ня спаў. Дэлегаты ўжо даўно пакінулі яго слухаць. Адны сталі між сабой размаўляць, іншыя сталі пратэставаць і абурацца на прэзыдыюм, што ён розных прыблудаў пускае на трыбуну і гэтым марнуе дарагі час. З залі чуліся галасы: «Гнаць п'яніц з трыбуны!» Калі прэзыдыюм настойліва пачаў гнаць яго з трыбуны, дык ён загаманіў: «Абвяшчаю сход зачыненым. Таварышы, разыйдзецеся!»

Хто-ж гэта такі Крывашэін? Аб ім мянчукі расказвалі, што ў часе вайны ён служыў у нейкім транспарце і амаль кажны дзень можна было яго спаткаць на Нізкім Рынку штоколечы прадаючы: ці то папонку ад каня, ці рэмень, ці якую салдацкую вопратку.

Паводзіны Крывашэіна вельмі абурылі дэлегатаў Кангрэсу. Пад буру выкрыкаў і сьвістаў Крывашэін пакінуў трыбуну і пайшоў за дзьверы. Пасьля яго выхаду старшыня Кангрэсу стаў заклікаць да парадку. Дэлегаты абураліся на прэзыдыюм, што ён праз недагляд пускае на трыбуну розных прыблудаў, і гэтым траціцца дарагі час, які трэба выкарыстаць для нацыянальнай справы.

Калі заля ўспакоілася і Кангрэс узноў распачаў працу, дзьверы расчыніліся насьцеж і ў залю уварваліся чырвонагвардзейцы на чале із сваім начальнікам Рэмнёвам. Яны раптам занялі ўсе праходы, абкружылі прэзыдыюм, пачалі яго арыштоўваць і выводзіць за дзьверы. Крывашэін і Рэмнёў уважалі, што яны ўжо гэтым сваім брутальным актам разьвязалі Кангрэс. Але дэлегаты ў залі не ўдаліся ў роспач і безнадзейнасьць. Яны выбралі новы прэзыдыюм і вынесьлі пратэст супраць нячуванага гвалту над выбраньнікамі беларускага народу.

Праца Кангрэсу працягвалася далей. Першым чынам прыцягваецца да грамадзкай адказнасьці жыдок-ахвіцэр, што зарэкамэндаваў прэзыдыюму Крывашэіна. Прыйшла вестка, што крывашэінцы ўзноў ідуць у памешканьне Кангрэсу. Дэлегаты Кангрэсу сьпярша стоўпіліся ў дзьвярах, каб ня ўпусьціць іх у залю. Яны ўсё-ж прабіваюцца. Прэзыдыюм не сядзіць ужо за сталом, а стаіць на сталох. Дэлегаты перад ім будуюць у момант барыкады з крэслаў. Калі крывашэінцы пачынаюць разьбіраць гэтыя барыкады, дык на іх праз галовы дэлегатаў паляцелі крэслы, і ў момант вырасла новая, яшчэ вышэйшая барыкада. Крывашэінцы зьмяшаліся з дэлегатамі, пачалі стукаць кольбамі аб падлогу й патрабаваць, каб дэлегаты выходзілі. Дэлегатаў на залі было шмат, больш, чымся чырвонагвардзейцаў. Праз нейкі час выявілася, што частка чырвонагвардзейцаў была ўжо раззброеная. Гэта сталася проста. Калі стаіць між дэлегатаў чырвонагвардзеец і стукае стрэльбай аб падлогу, трымаючы яе дзьвюма рукамі, дык за гэтую самую стрэльбу хапаліся яшчэ чатыры рукі. Крывашэінцы запрапанавалі дэлегатам зьвярнуць ім стрэльбы і абяцалі пакінуць залю. Ім стрэльбы аддалі і яны ўзапраўды выйшлі. Гэта нас падтрымала на духу. Ізноў пачалі пратэставаць супраць бальшавіцкага гвалту, але прэзыдыюм увесь час стаяў на сталох, а барыкадаў не разьбіралі.

Крывашэінскае начальства, вызваўшы на вуліцу сваіх чырвонагвардзейцаў, дало ім праборку за слабую актыўнасьць і кепскія паводзіны, што ўступалі ў размовы з паасобнымі дэлегатамі і навет дазволілі сябе раззброіць. Пасьля, атрымаўшы падмацаваньне, узноў уварваліся ў памяшчэньне Кангрэсу. Яны ўжо не мяшаліся з дэлегатамі, а пачалі іх акружаць. Рабілі спробы ўзноў дабрацца да прэзыдыюму, але дэлегаты, стоўпіўшыся каля барыкадаў, не дапусьцілі іх туды. Пачалася суматоха й тузаньне, што трывала цэлую ноч. Бальшавікі больш цэрэмоніліся з тымі дэлегатамі, што былі ў простым салдацкім адзеньні. Мне была нагода больш за іншых агрызацца з крывашэінцамі, бо мой шынэль быў просты, скомканы ды яшчэ ў дадатак рукаво й пала на ім былі абгарэлыя. Гэта быў рэчовы довад, што я франтавік.

Напасьледак бальшавікі прыдумалі новы мэтад высяленьня дэлегатаў з залі Кангрэсу. Яны папарадку ад дзьвярэй бралі па двух дэлегатаў, па сходах выводзілі іх на вуліцу і там пакідалі. Але тыя, што былі ў залі, ня ведалі, куды дзяюць тых, што выводзяць: думалі, што іх накіроўваюць у вастрог. На такое высяленьне патрабавалася шмат часу, але толькі такім чынам была магчымасьць разагнаць Кангрэс.

Пасьля гэтага я не пайшоў начаваць на Берасьцейскую станцыю ў санітарныя вагоны, але падаўся на Старажоўку шукаць гасподы свайго знаёмага. Калі я прыйшоў да яго, дык быў ужо досьвітак. Трохі адпачыўшы, я раніцай пайшоў на Пляц Волі, дзе ў былым губэрнатарскім доме памяшчалася Вялікая Беларуская Рада і Вайсковая Рада. Але пры ўваходзе спаткаў бальшавіцкую варту. Я пачаў прахаджвацца па пляцы, аж спаткаў знаёмага дэлегата Кангрэсу й запытаў, ці ён ведае што аб лёсе кіраўнікоў Кангрэсу: Серадзе, Езавітаву, Прушынскім і інш. Ён адказаў, што ўсе жывыя й знаходзяцца на волі. Пры гэтым ён мне паведаміў, што ўчарашняга вечара, калі бальшавікі разганялі Ўсебеларускі Кангрэс, іншы іхны ўзброены аддзел зрабіў напад на памешканьне Вялікай Беларускай Рады і Вайсковай Рады (б. губэрнатарскі дом), забраў усіх Беларусаў, што там пражывалі, і ўсе іхныя рэчы ды перавёз на Захараўскую вуліцу ў дом Настаўніцкага Інстытуту (пасьля Беларускі Пэдтэхнікум), а гэтае памешканьне абставіў сваёй вартай. І яшчэ ён мне сказаў, што як мне, так і іншым дэлегатам Кангрэсу трэба наведаць новае памешканьне Вялікай Беларускай Рады на Захараўскай вуліцы й атрымаць патрэбныя інфармацыі. Калі я прыйшоў у гэтае памешканьне, пабачыў, што там рэчы параськіданы, як папала, бо яшчэ ня было часу іх упарадкаваць. Там я спаткаў шмат сваіх знаёмых і кіраўнікоў Кангрэсу. Мне там далі адрыс і сказалі пасьля паўдня прыйсьці на Віленскую станцыю ў клюб чыгуначнікаў Лібава-Роменскай чыгункі, дзе будзе адбывацца далейшае чарговае паседжаньне Кангрэсу. (Неаднаразовыя інфармацыі беларускай прэсы, што далейшае паседжаньне Кангрэсу адбывалася ў чыгуначным дэпо, не адказваюць праўдзе. Гэтае паседжаньне адбылося якраз у вышэй названым клюбе чыгуначнікаў.)

Калі я 31 (18 ст. ст.) сьнежня прыйшоў у клюб чыгуначнікаў Л.-Р. чыгункі, дык шмат дэлегатаў было ўжо тут. Хутка зышліся й астальныя, і пачалося паседжаньне. Першым чынам афармілі пратэст супраць нячуванага бальшавіцкага гвалту над прадстаўнікамі беларускага народу. Пасьля Кангрэс вынес рад пастановаў аб арганізацыі ўлады ў Беларусі. Тут-жа Кангрэс выбраў Выканаўчы Камітэт і Раду Ўсебеларускага Кангрэсу, якім даў права рэпрэзэнтаваць беларускі народ аж да таго часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм на вольнай беларускай зямлі, якому й зложаць свае паўнамоцтвы, атрыманыя ад Кангрэсу. Гэтаму Выканаўчаму воргану было даручана арганізаваць уладу ў Беларусі: паклікаць, кааптаваць і ўпаўнамочваць адпаведных для гэтае справы людзей складаць урады й рады ды праводзіць выбары ў Устаноўчы Сойм.

Калі дэлегаты Кангрэсу з усёй сваей энэргіяй аддаліся плоднай канструктыўнай працы, у памешканьне ўвайшлі тры маладыя хлопцы, якія назвалі сябе «Камісарамі Заходняй Вобласьці». Гэта былі Ландэр, Разаўскі і Мясьнікоў. Яны патрабавалі ад чыгуначнікаў выселіць Усебеларускі Кангрэс з чыгуначнага памешканьня. У гэты час падняўся тоўсты голены дзядзька, бліснуў акулярамі й

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

# Байкот сацрэалізму

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

Гэта — так званыя посьпехі. А якія-ж недахопы? Цытуем: «Некаторыя пісьменьнікі і паэты . . . захапляюцца пераважна інтымнай лірыкай, бытаапісальніцтвам! . . . Пісьменьнік, паэт . . . павінен . . . пісаць пра савецкіх людзей з душой . . . »

Вось тут-то і вылазіць шыла зь мяшка: лірычныя творы, хоць і пісаныя з душой, не падабаюцца партыйнай крытыцы — яна заве такую творчасьць «уцёкамі ад рэчаіснасьці». І ў гэтым шмат праўды — шчыра апісваць рэчаіснасьць савецкі пісьменьнік ня можа пад страхам быць названым нігілістым, рэвізіяністым ці яшчэ чым-небудзь. А маніць «з душой» цяжка, навет такому спэцыялістаму як Пятрусь Броўка. Таму спад пяра такіх, як ён, «сацыялістычных рэалістаў» і выходзяць такія шэдэўры нуды як «Калі зьліваюцца рэкі» . . .

У дасягненьні сучаснай беларускай літаратуры «Літаратура і мастацтва» залічае й тое, што летась выйшлі таксама кнігі такіх пісьменьнікаў, якія доўга не выдаваліся. Аб тым, чаму яны не выдаваліся — ні слова. Чытаем далей: « . . . У нашу літаратуру **вярнуліся** многія паэты . . . » Чаму-ж «Літаратура і мастацтва» не дагаворвае — адкуль вярнуліся?

Але пакінем часова передавы артыкул «Літаратуры і мастацтва» і глянем на рэцэнзію Бярозкіна на зборнік Танка «Каб ведалі», які, дарэчы, выйшаў 10 год таму. Рэцэнзія зьмешчана ў тым-жа нумары газэты. Між іншых твораў, Бярозкін разглядае паэму Танка «Люцыян Таполя». Герой паэмы — беларускі мастак, які жыве ў канцы XVII стагодзьдзя, ды якому, як гаворыцца ў рэцэнзіі, «за вольнасьць абыходжаньня з матывамі, кананізаванымі царквой» біскуп забараняе тварыць на працягу цэлых 10 гадоў.

Вось тут і напрошваецца параўнаньне: а тыя паэты, што **вярнуліся** — ім было забаронена тварыць больш за дваццаць гадоў, у бальшыні выпадкаў — з тых самых прычынаў, як і Люцыяну Таполі! І можна быць пэўным, што бальшавікі будуць зь іх цяпер мець столькі карысьці, колькі меў біскуп зь Люцыяна Таполі. Хопіць толькі прачытаць апошнія вершы калісьці выдатнага паэты Язэпа Пушчы, які таксама вярнуўся. Вучань чацьвертае клясы мог-бы быць ня горшым сацрэалістым . . .

Кажны ведае, што адным з паказьнікаў вартасьці літаратурнага твору зьяўляецца колькасьць ягоных чытачоу. У БССР ведамыя пісьменьнікі бальшыню сваіх твораў друкуюць у часапісе «Полымя». Ці шмат хто яго чытае? Адказ знаходзім у тым-жа нумары «Літаратуры і мастацтва» з 22 сакавіка. На апошняй бачыне, у зацемцы «Трывожныя факты» гаворыцца: « . . . Як ні дзіўна, колькасьць падпісчыкаў з году ў год зьмяншаецца . . . У Брэсцкай вобласьці часапіс «Полымя» выпісвае 6 чалавек . . . У Мінскай вобласьці «Полымя» выпісвае 25 чалавек . . У Маладэчанскай вобласьці на «Полымя» падпісалася 5 індывідуальных падпісчыкаў. Не намнога лепшае становішча і ў іншых абласьцях . . . »

Вось вам і факты. Цікава між іншага адцеміць, што палажэньне часапісу «Советская Отчизна», які выходзіць у расейскай мове, ды які вельмі хваляць бальшавіцкія крытыкі — яшчэ больш катастрафальнае.

Не паралічэньнем сацрэалістычных твораў, а вось гэтымі фактамі мусіўбы «пахваліцца» Саюз пісьменьнікаў БССР на сваім чарговым зьезьдзе. Твораў «бяз душы» чытаць ніхто ня хоча й ня будзе.

**У. Н.**

# Недарэчная і шкодная канцэпцыя

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

мі, ці адпаведным тонам апаганьваць ўсё, што мае супольнае з прынцыпамі ці практыкай ворага».

Мы прывялі сьведама гэтую даўжэйшую вытрымку, каб на практыцы паказаць, на колькі часамі людзі (у мінулым з адказнымі становішчамі) могуць быць наіўнымі, калі забіраюць голас у справе, дзе ня маюць належнага дасьветчаньня. Аўтар падаючы свае «рэцэпты» зусім ня спыніўся над пытаньнем ці «пацыент» будзе мець змогу атрымаць у савецкай «аптэцы» рэкамэндаваныя «лекі». Падобныя разважаньні — гэта страшнае спрошчваньне (ці проста поўная ігнаранцыя) праблемы. Знайшліся-б і найвышэйшыя працаўнікі Бі-Бі-Сі, былі-б і камэнтатары, і сьпікэры, якія-б гаварылі тое, чаго патрабавала-б Масква ці камуністычны ўрад ў Лёндане, што ў выніку — адно й тое-ж.

Наагул-жа, ня гледзячы на тое, што брытанскі фэльдмаршал Лёрд Алянбрук называе кніжку Кінг-Гола «вельмі важным укладам у дыскусію наважаных праблемаў нашых дзён», ды напэўна знойдуцца і іншыя аўтарытэты якія яе высока ацэняць, мы, якія на сваім собскім дасьветчаньні ведаем прыроду, мэтады й мэты камуністычна-расейскага імпэрыялізму, разглядалі-б «абарону» аўтара не як «уклад у дыскусію», а хутчэй як адзін з крокаў да зрады дэмакратыі й свабоды, як адзін з крокаў да самагубства, калі-б . . . . ня столькі відавочнай ігнаранцыі й наіўнасьцяў у ёй.

**А. Галубіцкі**

Калыхнуў я галіну, —  
Белы цьвет асыпаў нас.

* * *

Дзіўна кволыя  
Ірдзяныя, жоўтыя,  
Сіняватыя  
Лісточкі васеньнія  
Крыюць ядвабам шляхі.

* * *

Ўсё зьнікае  
І сьледу нат ня кіне,  
Як шэры попел  
Ад чорнага вагнішча,  
Разьвеяны вятрыскам.

### ПЭРСЫДЗКАЯ

Я ўсё забыў на сьвеце і ведаю адно:  
Зюлейка маладая, што старае віно.  
Я ўжо упіўся ёю, — цяпер віном уп'юся . . .  
Паглядзім, хто хмялейшы: Зюлейка, ці яно?

* * *

Празрыстым пакрывалам ты агарнула твар.  
І ён — як поўны месяц сярод правідных хмар.  
Праглянь, мой месяц мілы, зірні мне ясна ў вочы,  
Каб не ляжаў на сэрцы маркотных дум цяжар.

### Зь недапрацаванага
### ДУМЫ

Не бядуй, што хмары  
Сонца сьвет схавалі —  
Нарадзіцца мусіць  
Бура з гэтых змар.  
Праўда, ўсё прыціхла . . .  
Бор замоўк і хвалі,  
Але будзе бура,  
Ты мацней удар!  
1911

* * *

Сягоньня ўночы я ў царсьцьве казкі:  
Звычайны сьвет растануў, зьнік,  
У сінім небе спад палумаскі  
Глядзіць прыгожа маладзік.

Вось ён схаваўся у вуалецьце —  
Празрыстай хмаркі серабры, —  
Бо налякаўся, відаць, канфэцьці  
Шматхварбных зорак угары.

Там сьнегавою хтось сыпле пудрай,  
Каб цешыць свой вясёлы шал.  
А я у песьні нянадта мудрай  
Апеў нябёсаў карнавал.  
1915—16

* * *

Ўсплывае грамад сыфорафоры  
Жывых асоб жывучая труна!  
Зраслася зь іх, скалечаных, яна,  
Як з членаў, не жадаючых прасторы.  
Дзе, хто яе кіруе паміж мора,  
Хто — хапае здабычу ў цемні дна?  
Аб раўнавазе руліцца адна,  
І ўсе жывуць бяз шчасьця і бяз гора . . .  
1916

* * *

Ты ня згасьнеш, ясная зараначка,  
Ты яшчэ асьвеціш родны край.  
Беларусь мая! Краіна-бараначка!  
Ўстань, свабодны шлях сабе шукай.  
1917?

* * *

Беларусь, твой народ дачакаецца  
Залацістага, яснага дня.  
Паглядзі, як усход разгараецца,  
Колькі ў хмарках залётных агня . . .

Бач, агністым блескам засьвячаюцца  
Шыбы цёмныя вясковых хат,  
Туманы расою рассыпаюцца . . .  
1917?

* * *

Досі ўжо, браты, чужынцам мы служылі,  
Досі ўжо пашаны ім прыдбалі;  
Не сваю — чужую долю баранілі,  
Пад чужымі сьцягамі ўміралі.  
1917?

## Да новае рэдакцыі „ВЯНКА“
### (1916—1917)

Найбольш грунтоўна перарэдагаваныя вершы «Вянка».

O voi, ch'avete gl'intelletti sani  
Mirate la dottrina, che s'asconde  
Sott'il velame degli versi strani.  
Dante, Inf. IX.

* * *

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун  
Пачынае няголасна граць:  
Пад рукамі яго, навяваючы сум,  
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,  
Тонкаствольныя сосны зьвіняць.

Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,  
Зашамрэлі мацней каласы,  
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,  
Што зіяе-дрыжыць на лісьці лазьняка:  
Кроплі сьлёз ці халоднай расы?

(Далей будзе)

# З выдавецкай нівы Казакаў

Перагортваючы бачынкі гадавікоў «Бацькаўшчыны», мы час ад часу знаходзім карэспандэнцыі, якія паказваюць на шчырае супрацоўніцтва й запраўдную дружбу між Казакамі й Беларусамі на эміграцыі. У тых мясцовасьцях, дзе ёсьць і казацкія й беларускія арганізаваныя асяродкі, няма амаль такога вынятку, каб на беларускіх імпрэзах ня было Казакаў, і наадварот. Узаемная пашана, прыязьнь ды супольная доля — злучае нас тут у вадну сям'ю змагароў за нацыянальныя правы нашых паняволеных народаў.

Свайго часу мы шырока насьвятлялі на бачынах нашае газэты страшную трагэдыю Казакаў, якую ім давялося перажыць у першыя пасьляваенныя дні ў Аўстрыі (Ліенц) — прымусовае й барбарскае выданьне іх у рукі бальшавікоў. Для казацкае справы гэта быў страшэнны ўдар. Тыя аднак Казакі, якім удалося захавацца ў вольным сьвеце, яшчэ з большай упартасьцяй, зь нязвычайнай ахвярнасьцяй працягвалі й працягваюць працаваць і змагацца за казацкую справу.

Сяньня Казакі на эміграцыі маюць свае рознага характару арганізацыі й установы, вядуць ажыўленую дзейнасьць як арганізацыйна-нутраную так і вонкавую, рэпрэзэнтуючы казацкае імя ды прадстаўляючы вольнаму сьвету казацкую нацыянальную справу.

Апошнімі часамі асабліва ажыўленая дзейнасьць у Казакаў заўважаецца на выдавецкай ніве. Апрача прэсы й іншых пэрыядычных выданьняў, выдаюцца кніжкі мастацкае літаратуры, зборнікі, падручнікі.

Перад намі тры сьвежыя выданьні: «Казацкі лемантар» і «Казацкая хрыстаматыя» Н. Посахава, а таксама «Тры браты — Алень — Дзядзя Янош» — П. Палякова.

З чыста выдавецка-тэхнічнага гледзішча ўсе тры выданьні беззаганныя: добрая папера, чысты й выразны друк ды густоўнае афармленьне вокладак робяць прыемнае ўражаньне.

Што да самога лемантара, дык ня гледзячы на яго тэхнічную беззаганнасьць (у параўнаньні зь ім выдадзены ўжо даўно на эміграцыі беларускі лемантар выглядае даволі прымітыўна), усё-ж на нашу думку з мэтадычнага гледзішча ён мае некаторыя недацягненьні. Паперш ае тут знаходзіцца цэлы шэраг месцаў, дзе як прыклады з ужыцьцём тых ці іншых літараў падаюцца словы цяжкія, словы абстрактнага значаньня. Бязумоўна, гэта не для дзяцей, якія толькі што пазнаюць таямніцу пісаных ці друкаваных значкоў. Зьвяртаюць на сябе ўвагу ў канцы лемантара й пару за цяжкіх для пачынаючых дзяцей тэкстаў, хоць хіба гэтае можа тлумачыцца тым, што ўкладальнік меў якраз на ўвазе спэцыфічныя ўмовы, дзе нярэдка дзіцё толькі пасьля пару клясаў пачатковае школы ў чужой мове, пачынае пазнаваць сваю мову ў пісьме. Тым ня менш, у вагульным трэба адцеміць дадатняе значаньне гэтага выданьня.

«Казацкая хрыстаматыя» — своеасаблівае выданьне. Кнігі такога жанру, якая неабходная ў эміграцыйных умовах, нашая эміграцыя, нажаль яшчэ ня выдала. Своеасаблівасьць хрыстаматыі заключаецца ў тым, што сваім зьместам яна нагадвае гэтак патрэбную кажнаму эміґранту настольную кнігу, прысьвечаную бацькаўшчыне.

У «Казацкай хрыстаматыі», апрача твораў ці ўрыўкаў з твораў казацкіх паэтаў і пісьменьнікаў, мы знаходзім цэлы шэраг іншых тэматычных цыкляў: нарысы геаграфічна-эканамічнага характару аб Казакіі, нарысы аб мінулым казацкага народу, аб паасобных слаўных сынох яго й г. д.

З кажнага зьмешчанага тут твору адчуваецца глыбокі патрыятызм і бязьмежная любоў да роднага краю, свайго народу, прыгожых традыцыяў ды слаўнага мінулага. І як у беларускай паэзіі красуецца блакітны Нёман, гэтак у казацкай — слаўны ціхі Дон. Чытаеш, і, здаецца, тут-жа на вачох праходзяць слаўныя постаці казацкай гісторыі, а сярод іх вялікі сын Дону — Булавін.

«Казацкая хрыстаматыя» — прыгожае й карыснае выданьне з кажнага гледзішча. Яе з аднолькавай цікавасьцяй будуць чытаць усе, ад малога да старога, ды й ня толькі Казакі. Для казацкае-ж моладзі, што дасьпявае тут на чужыне, далёка ад бязьмежных прастораў Казакіі, гэтае выданьне проста незаменнае для пазнаньня свае бацькаўшчыны ды навязаньня зь ёй духовага кантакту.

Трэйцяе выданьне — паэзія казацкага паэты (таксама грамадзка-палітычнага дзеяча й журналістага) П. Палякова. Сюды ўваходзяць тры творы. «Тры браты» й «Алень», хоць і пададзеныя аўтарам у форме казак для дзяцей, але ў іх сымбалічна перадаецца глыбокі зьмест слаўнага мінулага Казакаў ды трагедыя пазьнейшага паняволеньня іхнае бацькаўшчыны. Трэйці твор — прыгожая паэма «Дзядзя Янош», якую чытач ня можа чытаць без хваляваньня.

Як даведваемся, у хуткім часе мае выйсьці з друку асобным выданьнем збор твораў (лірыка) П. Палякова (абыймо — 250 б.).

Ведама, што выдавецкая дзейнасьць — гэта важная галіна працы тут на эміграцыі, і кажная новая пазыцыя ў ёй — гэта дасягненьне. І, бязумоўна, казацкая эміграцыя ідзе правільным шляхам, прысьвячаючы належную ўвагу гэтай дзялянцы працы.

Заканчваючы, хочам падчыркнуць, што нас, Беларусаў, заўсёды радуе кажнае дасягненьне ўва ўсялякіх галінах дзейнасьці прыязных нам народаў, і тым больш радуюць нас дасягненьні Казакаў, зь якімі лучыць нас супольная доля й супольнае змаганьне за свабоду ды што раз больш цясьнейшае супрацоўніцтва й запраўдная дружба.

**А. Г.**

**УВАГА! УВАГА!**

**ПАДПІСЧЫКІ Ў ЗША!**

**Гэтым паведамляецца, што ўсе падпісчыкі «Бацькаўшчыны» ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, якія атрымліваюць газэту беспасярэдна з Адміністрацыі ў Мюнхэне, павінны як няйхутчэй урэгуляваць сваю задоўжанасьць за газэту, а так-жа і выслаць падпіску на 1958 год на ніжэй пададзены адрыс нашага Прадстаўніка ў ЗША:**

**Mr. B. Danilovich**
**303 Howard St.,**
**New Brunswick, N. J.**

### ПЕРШЫ УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

**Заканчэньне зь 7-ай бачыны)**

загаманіў: «Пайшлі вон, мярзаўцы!» Калі яны хацелі нешта сказаць у сваю абарону ён дадаў: «Хутчэй выбірайцеся, каб вашага тут і смуроду ня было! Калі будзеце болей назаляцца, дык праз два дні будзе спынены рух на ўсіх чыгунках». Камісары пацiснуліся за дзьверы. Дэлегаты да вечара закончылі сваю працу й разьехаліся.

У Менску астаўся Выканаўчы Камітэт і Рада Усебеларускага Кангрэсу. Гэты Выканаўчы Камітэт і Рада, папоўніўшы свае рады новымі дастойнымі людзьмі й перайменаваўшыся ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, абвесьцілі Акт 25-га Сакавіка і ўтварылі Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які праіснаваў, апошнім часам на эміграцыі, да нашых дзён і цяпер рэпрэзэнтуе беларускі народ.

**Дэлегат Кангрэсу**

### 10 год таму «Бацькаўшчына» пісала:

✳ ...Мы — ...ня супраць партыяў, але толькі ў межах нацыянальнага адзінства, мэтасьведамага й мэтаськіраванага згуртаванага нацыянальна-незалежніцкага руху.

✳ ...І калі бальшавікоў завуць слушна чырвонымі фашыстамі, дык салідарысцкіх нэа-фашыстых (сяброў расейскай партыі НТС — Рэд.) яшчэ з большай слушнасьцяй можна хрысьціць белымі бальшавікамі.

✳ Шырака ведамы й заслужаны рэпрэзэнтант беларускага сцэнічнага мастацтва на эміграцыі — Беларускі Тэатр Эстрады пад кіраўніцтвам камп. М. Куліковіча надовечы зьвярнуўся ў амэрыканскую зону із свайго другога гастрольнага падарожжа па ангельскай зоне Нямеччыны. У часе ад 14-га лютага да 3-га красавіка Тэатр даў 58 паказаў.

*Наша Бацькаўшчына*

# Рэкі й вазёры Беларусі

У гэтыя сьвяточныя дні перанясемся нашымі думкамі на ціхія рэчкі нашай Бацькаўшчыны і ў тыя гаі й дубровы, праз якія нясуць яны свае празрыстыя воды, на тыя вазёры, што аблямаваныя барамі, вербалозамі й чаротамі ў задуменьні адбіваюць чысты блакіт беларускага неба.

Летам беларускія рэкі цякуць ціха й павольна; гэтая павольнасьць там-сям парушаецца парогамі й перакатамі. Іншы выгляд нашых рэк цяпер вясною. Сьнег хутка тае, шматлікія ручаі нясуць свае воды ў рэкі й вазёры, якія выходзяць зь берагоў, заліваюць нізкія заліўныя сенажаці. У некаторых рэках вада падымаецца да нязвычайнага ўзроўню — 8-12 мэтраў. Вялікую ваду старaюцца выкарыстаць плытагоны, параплавы і... рыбакі. У гэты час рыба з глыбокіх месцаў імкнецца выбрацца ў зацішак, у затоны, каб тут у цяплейшай і спакойнай вадзе зложыць ікру. Аднак чалавеку да гэтых клопатаў бязмоўных стварэньняў няма справы. Ён выкарыстоўвае законы прыроды для свае карысьці. Прыладзіўшыся дзе-небудзь на купіне ці на вывараце старой алешыны рыбак з восьцямі сочыць за вясёлым рыбным карагодам. Шмат тады не пагаспадарску зьнішчаецца каштоўнае рыбы.

Звычайна веснавыя паводкі трываюць на Беларусі нядоўга. Вада зьбягае й сенажаці зацьвітаюць нязьлічонымі колерамі, у паветры хвалямі плыве арамат сьвежых кветак і траваў. Толькі на Палесьсі паводка трывае даўжэй. І тады душагубка-човен — адзіны сяродак зносін ня толькі вёскі зь вёскаю, але й ня рэдка між паасобнымі будынкамі ў гаспадарцы. Палеская нізіна мае нязначны ўхіл, а таму магутная Прыпяць із шматлікімі прытокамі ня можа хутка ўправіцца выслаць свае воды ў Чорнае мора.

Агульная даўжыня беларускіх рэк — каля 50 тысяч кілямэтраў. Аднак суднаходных водных шляхоў — толькі 8 тысяч кілямэтраў ды сплаўных — каля 15 тысяч.

Адзін з найбольш старажытных водных шляхоў праходзіў з Балтыцкага мора ў Чорнае праз Беларусь — гэта шлях «з Вараг у Грэкі». Тут Дняпро йграў асноўную ролю. З агульнай даўжыні Дняпра у 2300 кілямэтраў, 700 кілямэтраў праходзіць толькі ў сучасных межах БССР. У верхнім цячэньні Дняпра суднаходзтва ня мае вялікага значаньня; перамылкі й зьвіліны перашкаджаюць навет дробнаму суднаходзтву. Запраўды суднаходным і паўнаводным становіцца Дняпро толькі пасьля мястэчка Горваля, дзе ўпадае ў яго Бярэзіна; далей у Лояве Дняпро ўзбагачваецца водамі Сожу. Тут ужо на працягу ўсяго навігацыйнага пэрыяду адбываюцца рэгулярныя параплаўныя рэйсы.

Бадай найпрыгажэйшым правым прытокам Дняпра зьяўляецца рака Сож. Яна бярэ свой пачатак ля Смаленску й абмывае сваімі водамі шэраг раёнаў. Уся даўжыня Сожу — 560 км. На правым высокім беразе яго разьмясьціліся буйныя мястэчкі, якія ў гісторыі Беларусі на ўсходняй мяжы мелі славутую мінуўшчыну. Тут знаходзіцца Крычаў, які быў заснаваны Крывічамі ды ў старажытныя часы называўся Крывічаў. Таксама на правым беразе знаходзіцца горад Прапойск, які ўспамінаецца ў летапісах у IX стагодзьдзі. Пасьля апошняй вайны гэты горад быў перайменаваны ў Слаўгарад. Адсюль на Сожу пачынаецца ўжо суднаходзтва. Пачынаючы ад Крычава й аж за былы павятовы горад Чачэрск Сож цячэ праз вялікія пушчы. Берагі ракі ў гэтай частцы крутыя й зьвілістыя. Нармальнае суднаходзтва на Сожу пачынаецца толькі з Гомеля. Параплавы рознага прызначэньня з Гомеля плывуць да Кіева й ніжэй.

Найбольшы левы прыток Дняпра — гэта Прыпяць, якая на працягу 800 кілямэтраў падзяляецца на шэраг рукавоў, прырэчных вазёраў, старыцаў. У Прыпяцкай пойме сенажаці перамешваюцца з забалочанымі хмызьнякамі й лясамі. Прыпяць — найбольш буйны водны шлях Палесься. Па ёй транспартуецца пераважная колькасьць лесаматар'ялаў. Тут шырока разьвіта як таварнае так і пасажырскае суднаходніцтва. Прыпяць зьбірае таксама воды й з мэльяраваных плошчаў.

Другі значны прыток Дняпра — рака Бярэзіна, якая бярэ свой пачатак крыху на поўнач ад Докшыц. Даўжыня яе — каля 600 кілямэтраў. Па ёй спраўляецца даволі шмат лясных матар'ялаў. Суднаходзтва пачынаецца ад Барысава.

Дзьвіна толькі сярэдняй часткай знаходзіцца ў межах сучаснай БССР. У параўнаньні зь мінулымі часамі яна значна абмялела з прычыны вынішчэньня навакольных лясоў. Веснавыя воды хутка зьбягаюць і летам Дзьвіна зусім маловодная. Вялікіх прытокаў яна ня мае. У сувязі з малаводзьдзем, а таксама з наяўнасьцяй перакатаў, Дзьвіна ня выкарыстоўваецца для суднаходзтва, а толькі для сплаву лясных матар'ялаў у Рыгу.

У Балтыцкае мора нясе свае воды прыгожы, апяяны беларускімі паэтамі й апісаны нашымі пісьменьнікамі, блакітны Нёман. Уся даўжыня яго — 850 кілямэтраў, аднак у межах сучаснай Беларусі — толькі 450. Пачатак свой бярэ ён у Узьдзенскім раёне Менскай вобласьці. Ужо зь мястэчка Пясочнае, Капыльскага раёну пачынаецца сплаў лесу. Суднаходзтва пачынаецца з Мастоў, а ў будучыні мяркуецца пачынаць ужо ад Стоўпцаў.

Значным прытокам Нёману зьяўляецца Шчара. Праз Шчару й Агінскі канал Балтыцкае мора зьвязваецца з Чорным. З правага боку ў Нёман упадае Вяльля, якая працякае па паўночна-заходняй частцы Беларусі.

На Беларусі налічваецца да 4 тысяч вазёр. Асабліва шмат іх на поўначы й поўдні. Сярэдняя частка Беларусі ад Гародні да Імсьціслаўля мае добры спад паверхоўных водаў у рэчкі, таму тут і няма вазёр.

Вазёры паўночна-заходняй часткі Беларусі знаходзяцца між упадзінамі й марэннымі ўзгоркамі. З гэтых вазёраў найбольшае Нарач (84 кв. км.), якое наш народ пяшчотна называе «Беларускім морам». На поўнач ад яго знаходзіцца некалькі буйнейшых вазёраў, як Дрысьвяты (45 кв. км.), Снуды (40 кв. км.), Дрывяты (38 кв. км.). Трэба адцеміць яшчэ й такія буйныя вазёры як Асьвейскае (58 кв. км.), Няшчэрда (25 кв. км.), Лукомля.

Цяжка славамі выказаць усю прыгожасьць гэтых блакітных караляў шчодра рассыпаных сярод хваёвых лясоў на поўначы нашай Бацькаўшчыны.

Іншы выгляд маюць вазёры на Палесьсі. Найчасьцей яны знаходзяцца на рачных тэрасах. Берагі іх нізкія, часта забалочаныя, зарослыя чаротам, аерам, дробным хмызьняком. Мясцамі берагі вазёраў няпрыкметна пераходзяць у небясьпечную для чалавека дрыгву.

Найбольш буйнае з палескіх вазёраў — Князь-возера (40 кв. км.). Называлі яго й Жыд-возера, а пры савецкай уладзе перайменавалі ў Чырвонае. У заходняй частцы знаходзіцца Выганоўскае возера, на палову меншае за Князь-возера.

Вакол некаторых вазёраў народ склаў прыгожыя лягенды, якія звычайна маюць драматычны канец. Шмат лягендаў існуе й аб Князь-возеры. На ім-жа засталіся няведамага паходжаньня палі. Розныя здагадкі й нарадзілі шмат лягендаў.

Нажаль на берагох нашых рэкаў і вазёраў розныя акупанты пабарбарску зьнішчалі й зьнішчаюць лясы, якія зьяўляюцца неабходнай умовай для паўнаводнасьці. Каштоўныя дубравы й бары палі пад іхнымі сякерамі. Таму за апошніх 60—70 гадоў водныя басэйны Беларусі абмялелі.

У вольны час, асабліва веснавымі сьвятамі, Беларуса цягне бліжэй да вады ці да лесу. Мала ўцехі даюць яму панурыя калгасныя цэнтры й тыя абрыдлыя клюбныя забавы на індустрыяльных прадпрыемствах. Істота Беларуса знаходзіць запраўдную радасьць і ўцеху на беразе возера ці рэчкі, або на чаўне сярод пахучага аеру, ціхіх завадзяў, пышных вадзяных ліліяў і лотацяў. Беларуса захапляюць да забыцьця цудоўныя канцэрты галасістых птушак у нашых лясох, лагодная музыка ветру ў вяршынях лясных волатаў...

**В. Будзімер**

*Зь беларускага жыцьця*

### ПРЭЗЫДЭНТ БНР У ТАРОНТА

**Прэзыдэнт БНР сп. інж. М. Абрамчык прыехаў у Таронта ў пятніцу 21-га сакавіка зь Нью Ёрку на запрошаньне Галоўнае Ўправы Згуртаваньня Беларусаў Канады. Ён узяў удзел у мясцовым сьвяткаваньні Сакавіка.**

**У суботу 22-га сакавіка адбыўся сход Канадыйскага Сэктару Рады БНР, на якім сп. Прэзыдэнт паінфармаваў радных БНР адносна цяперашняй палітычнай сытуацыі беларускага вызвольнага фронту й падзяліўся рознымі палітычнымі навінамі. Адбыліся таксама перавыбары Ўправы Сэктару.**

**У панядзелак 24-га сакавіка вечарам сп. Прэзыдэнт Абрамчык падзяліўся навасьцямі й інфармацыямі зь сябрамі ЗБК у Беларускім Доме. На наступны дзень сп. Прэзыдэнт пакінуў Таронта.**

### СПАДАР ЮЗЭФОВІЧ, УВАГА!

Сп. Юзэфовіч, катораму ў сваім часе выставіў ашуранс Я. Станкевіч, няхай без адвалокі зьвернецца да мясцовага амэрыканскага консуля. Амэрыканскі ўрад паведамляе, што Юзэфовіч можа цяпер ехаць у Амэрыку. Таксама Юзэфовіч няхай перашле свой новы адрыс Я. Станкевічу ў Амэрыцы.

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

### Памёр Аляксей Кабычкін

**Да нас дайшла сумная вестка, што дня 25 сакавіка сёлета ў бальніцы ў Кан (Францыя) памёр на рака ведамы беларускі дзеяч сьв. пам. Аляксей Кабычкін, пакідаючы жонку Ганну Кабычкіну.**

**Аляксей Кабычкін радзіўся 16 сакавіка 1891 году ў Случчыне. Яшчэ перад першай сьветавай вайной ён скончыў гімназію ў Слуцку й юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Памерлы належаў да старэйшае генэрацыі беларускіх дзеячоў, праца якіх на беларускай нацыянальнай ніве распачалася яшчэ перад сьветавай вайной. Ён быў актыўным удзельнікам слаўнага Слуцкага паўстаньня 1920 году. Між абедзьвюма сьветавымі войнамі Аляксей Кабычкін жыў у Вільні й працаваў у рэдакцыях розных беларускіх газэт і ў розных арганізацыях. Падчас нямецкай акупацыі ён жыў у Лідзе й працаваў там у беларускім судоўніцтве.**

**З надыходам паўторнае бальшавіцкае акупацыі ён выэміграваў у Нямеччыну, а пасьля сканчэньня вайны знаходзіўся даўжэйшы час у ДП-лягеры ў горадзе Куфштэйн (Аўстрыя), адкуль у 1956 годзе пераехаў у Францыю й знаходзіўся ў доме для перастарэлых у Кан. Кабычкін аж да канца свайго жыцьця жыва цікавіўся беларускім нацыянальным рухам на эміграцыі і, на колькі пазвалялі магчымасьці й цяжкі стан здароўя, стараўся прыймаць у ім актыўны ўдзел.**

## УВАГА!

### ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісваць поўныя гадавікі «Бацькаўшчыны» (ня пераплеценыя) за наступныя гады:**

**1953, 1954, 1955, 1956. 1957.**

**Цана аднаго гадавіка разам зь перасылкай 5 амэрыканскіх даляраў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Дзеля таго, што ўспомненых камплетаў Рэдакцыя мае вельмі абмежаваную колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**